

**Старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**
**Зянону Пазьняку споўнілася**

# 50 год!

**Часопіс «Полацак» шчыра віншуе юбіляра з днём народзіўнаў і зычыць багата сіл, здароўя і вытрымкі для далейшай барацьбы за адраджэньне Беларусі.**

*Здымак зроблены пад час сустрэчы Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі Біла Клінтана і Зянона Пазьняка у Курапатах, 15 студзеня 1994 г.*

# Polatsak



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

# Зьмест



**Андрэй Карпук.** Распрацоўка макету рубрыкаў і заставак.

На першай бачынцы вокладкі: **Францыск Скарына.** Тытульны ліст кнігі «Прэмудрасьць Божая»

На чацьвёртай бачынцы вокладкі: **Францыск Скарына.** Гравюра «Сьвятой Троіцы» кнігі «Быцьцё»

На развароце: Групавы партрэт «Дзяржаўнай Беларускай трупы пад загадам «Галубка». Фота рабілася, мабыць, у 1927 г. а роўна праз 10 гадоў у 1937 г. увесь тэатр быў разагнаны, як «гняздо нацыяналістаў». На фотаздымку Ул.Галубок сядзіць у цэнтры, у белай кашулі (касаваротцы). Другая зьлева ад Галубка —ягоная жонка Ядзьвіга. У нізе сядзяць тры дачкі Галубка: Багуслава, Вільгельміна й Эмілія.

# Хрыстос Уваскрос!



*Рэдакцыя часопіса «Полацак» віншуе ўсіх сваіх чытачоў з Вялікаднём!*
*З нагоды гэтага вялікага сьвята зычым Вам радасьці.*
*Прыміце нашыя найлепшыя пажаданьні Вам і Вашым блізкім.*
*Хрыстос Уваскрос!*

# ЗЕРЦАЛО ЖИТИЯ

## Гістарычны арэол Жыровіцкай сьвятыні

Васіль Супрун

З даўніх часоў беларусы мелі свае сьвятыя мясьціны, прытулкі веры, куды сьцякаўся абдзелены доляй люд, шукаючы душэўнай літасьці і радасьці. Адным з найбольш славутых куткоў у Беларусі былі Жыровічы (Жырава) з вядомым манастыром і «цудатворным абразом Маці Божай Жыровіцкай».

Даўняя легенда сьцярджае, што абразок гэты прыблізна ў 1470 г. быў знойдзены пастушкамі на лясной грушы. Зьдзіўленыя і напалоханыя яго праменным зьзяньнем, дзеці паведамілі аб усім мясцоваму памешчыку, які на тым сьвятым месцы збудаваў невялікую драўляную цэркаўку і зьмясьціў у ёй яўлены абразок. Калі-ж з часам цэркаўка згарэла, а дзіўны абразок аб'явіўся на вялікім камені побач з суседняй крыніцай, новая царква была пабудавана над каменем там, дзе цяпер узвышаецца Яўленская царква, вымураваная ў 1672 г.

Усе згаданыя падзеі зьвязваюцца з імём мясцовага памешчыка Солтана Аляксандравіча. Ён і лічыцца заснавальнікам існуючай да нашых дзён праваслаўнай Жыровіцкай сьвятыні, якая ў мінулым, ды і сёньня прыцягвае велізарныя масы вернікаў. Шырока вядомай была яна ня толькі ў Літве (Беларусі), але і ў Польшчы, на Украіне. На сьвяточных службах у Жыровічах бывалі многія знакамітыя вяльможы былой Рэчы Паспалітай і, нават, каралі. Так, напрыклад, у 1644 годзе тут на багамольлі прысутнічаў кароль Уладзіслаў IУ з жонкай, у 1651 г.—кароль Ян Казімір, у 1684 г.—Ян III Сабескі з каралевічам Якубам, у 1744 г.—Аўгуст III, у 1784 г.—Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Амаль усе з магнатаў і манархаў, якія наведалі сьвятыню, ахвяроўвалі на яе нямалыя сродкі ці надзялялі прывілеямі. Найбольшай вядомасьці дасягнулі Жыровіцы ў ХУII— ХУIII стст.

Але давайце паспрабуем паглыбей зазірнуць у мінулае гэтага цікавейшага рэлігійнага цэнтру краю, каб хоць крыху наблізіцца да сваёй духоўнай спадчыны.

Сучасная вёска Жыровічы з комплексам старых камяніц-помнікаў разьмешчана за 10 км на поўдзень ад г.Слоніма, пры так званым Быценьскім тракце, на невысокіх пагорках, прымыкаючых да шырокага поплаву левабярэжжа ракі Шчары. З поўдня, захаду і поўначы вёску акружаюць пясчаныя ўзвышшы, паросшыя лесам. Нямала тут цудоўных чысьцюткіх крыніц, зь якіх бярэ пачатак прыток Шчары Іарданка.

Археолягічныя абследваньні ваколіц, праведзеныя аўтарам, сьведчаць аб тым, што ў раньні фэўдальны пэрыяд у межах тэрыторыі манастыра, дзе цяпер узьведзена Крыжаўзьвіжанская царква, было ўмацаванае гарадзішча з ровам і валам.

Пісьмовыя крыніцы паведамляюць, што дзесьці ўпалове ХУ ст. ваколіцы Жыровіч належалі нейкім Гайцэвічам. А пасьля сьмерці апошняга спадчыньніка, адыйшлі на ўласнасьць вялікага князя, які сваёй граматай ад 20 сакавіка 1493 года падараваў

памесьце ў спадчыннае валоданьне вядомаму тады рэлігійнаму і дзяржаўнаму дзеячу Солтану, месцам жыхарства якога ў асноўным сталі Жыровічы і Вільня. Валодаў-жа Солатан Аляксандравіч і дваром Вербскім, Шэшкінскім, мястэчкам Волчынам, Нясьвіжскім дваром, фальвакамі Рудні-кі і Юрцаў. 3 чаго відаць, што гэта асоба гістарычна вядомая валодала вялікімі зямельнымі надзеламі. Паведамляецца, што згодна з воляй караля і вялікага князя літоўскага Казіміра, у 1468 г. Солтан наведаў Італію і Рым, у 1469 г.—Англію, затым аб'ехаў усю Эўропу, паломнічаў у Ерусалім меў тытулы: Рыцара труны Божай, носьбіта Залатога стрыха. Ён быў падскарбіям каралеўскім, маршалкам Вялікага княства літоўскага, займаў пасады намесьніка слонімскага (верагодна з 1483 г.), наваградскага (з 1486г.), бельскага (з 1494 г.). Памёр Солтан Аляксандравіч недзе ў другой палове 1494 г. Намесьнікам слонімскім у гэты час ужо быў яго блізкі родзіч Літаўр Храбтовіч, які зьяўляўся і апякуном малалетняга сына Солтана—Аляксандра Солтанавіча.

3 1495 г. Жыровічы і маёнтак, у які ўваходзілі вёскі Вержбалаты, Літва Заверша, Станева, Русакова, Залесьсе, Акінін і Сколдычым, належалі Аляксандру Солтанавічу, з 1516 г.—«гаспадарскаму маршалку». Памер ён у 1555 г.

3 1555 г. Жыровічы зьяўляліся ўласнасьцю яго сына Івана Аляксандравіча Солтана, які побач зь існаваўшай царквой распачаў будаўніцтва вялікага мураванага храма. Аднак будынак гэты ім не быў закончаны нібы з-за прыняцьця гаспадаром пратэстанцтва. 3 гэтага часу былое імя Солтана стала прозьвішчам роду Солтанаў.

У «Актах Віленскай Археаграфічнай камиссіі» (т.XXII, с. 178) ёсьць весткі, што ў «року сем 1565-м, месеца сентебра осмого дня ,в суботу... на день нароженья Панны Маріі» у Жыровічах быў кірмаш. Гэта дае падставы меркаваць, што ў дадзеным паселішчы існавала менавіта Багародзіцкая царква, інакш кірмашы не прысьвячаліся-б гэтаму сьвяту. І зразумела — царква ўвесь час зьвязвалася зь зьяўленым абразом Маці Божай Жыровіцкай.

Пасьля сьмерці Івана Аляксандравіча Солтана ўся маёмасьць была разьдзелена паміж чатырма яго сынамі: Давыдам, Яраславам, Іванам і Аляксандрам. Жыровіцкі маёнтак быў падзелены паміж Давыдам і Яраславам. У 1587 г. Яраслаў прадаў сваю частку Жыровіч з «палавіцаю» манастыра царквы Жыровіцкае брату Івану за 5 тысяч коп. грошай літоўскіх. Сюды ўвайшлі і вёскі Літва, Залесьсе, Заверша, Русакова, Сьценявічы. У 1603 г. новы гаспадар здаў Жыровіцкі маёнтак на чатыры гады ў арэнду яўрэю Іцаку Міхелевічу з горада Хомска. Гэта быў вельмі складаны і цяжкі перыяд гісторыі сьвятой мясьціны і манастыра. Многія манахі адмовіліся падапрадкоўвацца часовым арандатарам і пакінулі манастыр. Арандаваныя вёскі з дазволу Міхелевіча проста наводняліся яўрэямі, прыбываючымі з розных куткоў краю. Яны скуплялі ў насельніцтва курэй, мёд, жывёлу й іншую сельскагаспадарчую прадукцыю, адкрывалі карчмы, крамы, бравары, спойваючы і ашукваючы мясцовае сялянства. Верагодна імі была занесена і распўсюджана страшная моравая хвароба, якая вынішчыла амаль палову насельніцтва, прынесла гаспадарцы вялікія страты. Разазлаваны Іван Іванавіч Солтан 6 студзеня 1605 г. забіў арандатара Іцака і пакалечыў некалькі яго родзічаў. Слонімскі суд сваім рашэньнем пазбавіў яго права ў на Жыровіцкі маёнтак, які, згодна з судовай пастановай, перадаваўся ў карыстаньне жонцы забітага

арандатара—Эсцеры.

У 1606 г. мсьціслаўскі каштэлян Іван Мялешка адкупіў у яўрэйкі Эсцеры Міхелем Жыровіцкі маёнтак з усёй маёмасьцю і насельніцтвам, таксама манастыр з царквою, даходам ад яе і манастырскім фальваркам. Будучы ўжо прыхільнікам вуніі, ён угаварыў мясцовага сьвятара Рыгора Сулу падпісаць 25 ліпеня 1609 г. забавязаньне падпарадкавацца вуніяцкаму мітрапаліту Пацею. З гэтага часу Жыровіцкі праваслаўны манастыр быў далучаны да царкоўнай вуніі, заключанай у Бярэсьці ў 1596 г.

Першымі вуніяцкімі настаяцелямі ў Жыровіцкім манастрыы былі: Ізафат Кунцэвіч з 1613 да 1614 г. затым ён быў пераведзены ў Вільню і Полацак (забіты ў Віцебску ў 1623). Яго замяшчаў да 1623 г. ігумен Феакціст, а з 1623 г. настаяцелем стаў ігумен Ян Дубовіч. Жыровічы ў гэты час ужо былі прыгожым і вядомым у навакольлі мястэчкам, дзе, акрамя цэркваў і манастырскіх будынкаў высіліся шыкоўныя мураваныя дворныя збудаваньні, крамы, карчма. Два разы на год тут праходзілі ажыўленыя кірмашы. Праз мястэчка праходзіў важны гандлёвы шлях з Слоніма ў Быцень, Пінск, які зьяўляўся часткай інтэнсыўнай транспартнай артэрыі, што злучала Прыбалтыку з гандлёвым Поўднем.

У 1613 г. Іван Мялешка, падпісанай ім граматай, дадзенай вуніяцкаму мітрапаліту Руцкаму і настаяцелю Жыровіцкага манастыра Іязафату Кунцэвічу, навечна ахвяраваў манастыр з цэрквамі і маёнткам вуніяцкаму ордэну Базыльянаў. Такім чынам, манастыр стаў поўнасьцю незалежным ад памешчыкаў. Прыблізна ў 1616 г. было закончана будаўніцтва галоўнага храма—Успенскага сабора, распачатае яшчэ Іванам Солтанам. Праўда памеры, планіроўка і афармленьне збудаваньня былі часткова зьменены. Перад сьмерцю ( у 1622 г.) Іван Мялешка падараваў манастыру і мястэчка Жыровіцы з навакольнымі землямі, лясным масівам Вікня, вёскай Агароднікі (цяпер Стайкі) і часткай сваіх дворных будынкаў.

Недзе раней была вымуравана аднавежавая царква зь вінтавой лесьвіцай на званіцу, якая разьмяшчалася побач з сучаснай Яўленскай царквой. Верагодна гэта і быў згадваемы ўжо Багародзіцкі храм, сьцены і часткова вежа якога захаваліся да нашых дзён (ва ўсходняй частцы будынку былога жылога манастрыскага корпуса). Дарэчы, у другім канцы гэтага -ж корпуса захаваліся цагляныя сьцены недабудаванага і разбуранага казакамі (1655) каталіцкага касьцёла.

Немалы ўдзел у манастырскім будаўніцтве і папулярызацыі славы сьвятыні спрычыніўся слонімскі стараста (з 1586 да 1633 гадоў) канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега. Толькі адным уласнаручным запісам у напрастольным саборным Евангельлі (так званым Жыровіцкім або Сапежанскім), зробленым 22 жніўня 1616 г. (пры высьвечваньні сабора), ён ахвяраваў манастыру вялікую частку свайго Шылвіцкага маёнтка на левым баку ракі Шчары, карчму з прылягаючымі землямі, багатую царкоўную рызу, поручы, епатрахіль, архірэйскую мітру і посах, сярэбраную чашу і дыскас. Падобныя ахвяраваньні былі не апошнімі. Апякунства Льва Сапегі спрыяла росківту асьветніцкіх і культурных традыцыяў сьвятыні. Пры манастыры існавала вялікая на тыя часы бібліятэка, а таксама архіў. Вёўся летапіс манастыра, перапісваліся рэдкія кнігі, працавала манастырская школа.

Папа Інакенцій X у 1647 г. ў Рыме даў індульгенцыю, у якой гаварылася аб ачышчэньні душаў памёрлых ад грахоў і пазбаўленьні ад пакут памянутых імён у Жы-

ровіцкім манастыры ў адведзеныя дні. Дзесьці з гэтага часу каля сьцен манастыра і ў падзямельлі сабора пачалі хаваць самых вяльможных і багатых паноў Вялікага княства Літоўскага, пры гэтым не без адпаведных прыжыцьцёвых ахвяраваньняў.

Ужо ў 1644 г. пасьля візіты ў Жыровічы караля Уладзіслава ІУ, мястэчку было дадзена права называцца горадам. А пасьля візіту караля Яна Казіміра, у 1652 г., яму было дадзена так званае магдэбургскае права—самакіраваньне.

У час свайго росквіту сьвятыня таксама зазнала страшэнныя спусташэньні. У 1655 г. казацкія атрады Багдана Хмяльніцкага, якія дзейнічалі супольна з расейскай арміяй супраць Рэчы Паспалітай, захапіўшы Слонімшчыну, ушчэнт абрабавалі манастыр і перабілі многіх яе служыцеляў. Моцна пацярпела і само мястэчка-горад, асабліва багацейшыя двары. Немалыя страты былі прычынены культурнай спадчыне краю. Зруйнаваным і спустошаным пакідалі край расейскія палкі. Каб падняць з руін манастыр, сойм Рэчы Паспалітай у 1661 г. зьняў з Жыровічназаўсёды вайсковыя абавязкі, а падаткі зьняў на чатыры гады. Паралельна з аднаўленьнем старых манастырскіх камяніц, вялося і новае будаўніцтва. Ужо ў 1672 г. была ўзьведзена мураваная Яўленская царква, манастыр зноў пачаў дзейнічаць.

У сваіх дасьледаваньнях М.Чыстовіч паведамляе, што ўжо недзе ў другой палове ХУІІІ стст. у Жыровіцах існавала манастырская друкарня. З 1701 г. пры манастыры пачала працаваць так званая філязофская школа на 300 навучэнцаў. Паступова аднаўлялася і былая слава сьвятыні, яе «зьяўленай Жыровіцкай іконы».

Новым страшным няшчасьцем для Жыровіч і наваколья быў мор 1710 г., які вынішчыў значную частку насельніцтва мястэчка. Паведамлялася, што са служыцеляў культу тут у жывых застаўся толькі іераманах Мікалай Акулевіч ,які адзін пахаваў каля 600 памерлых. Але жыцьцё не спынялася. Сьвятыня-ж у цяжкія хвіліны станавілася прытулкам надзей. Новай шырокай папулярнасьці манастыра і мястэчка спрыяла гучная і велічная цырымонія каранацыі дзьвюма залатымі каронамі сьвятой Жыровіцкай іконы. У 1726 г.пастановай папскай капітулы было вырашана «узлажыць на галаў Богадзіцяці Ісуса і Багародзіцы Дзевы ў г. Жыровіцах у храме айцоў ордэна св. Васіля, Кіеўскай дыяцэзіі, залатыя кароны».

Каранацыя адбылася 19 верасьня 1730 г. Да сьвяткаваньня рыхтаваліся загадзя, урачыстасьці шырока рэклямаваліся. У падрыхтоўцы прымалі ўдзел ня толькі рэлігійныя ўлады, але і сьвецкія саноўнікі. З гэтай нагоды ў межах мястэчка, пры падыходах да сабора з боку Слоніма было збудавана сем велічных трыумфальных брамаў амаль праз сто метраў адна ад адной. Першая брама збудавана на сродкі базыльянскага ордэна і Слонімскага павету, другая —на сродкі каранатара іконы Жыровіцкай (ад імя папы рымскага Бенедыкта XIII каранаваў ікону вуніяцкі мітрапаліт Афанасій Шэптыцкі зь япіскапамі: уладзімірскім Гадэбскім і пінскім Булгаком), трэцяя—на сродкі сьвяцейшага роду Пацеяў, чацьвёртая—дома Радзівілаў, пятая—дома Вішнявецкіх, шостая—Сапегаў і сёмая—на сродкі вялікага канцлера літоўскага Міхала Карыбут-Вішнявецкага. Самай велічнай была радзівілаўская брама.Яна мела два ярусы з хорамі для аркестры з васьмю аркамі.

Пры падрыхтоўцы да ўрачыстасьцей асаблівая ўвага ўдзялялася ўпрыгажэньню сабора. Нанова былі распісаны сьцены і столі, абноўлены абсталяваньне і царкоўная мэбля, аздоблены абразы, уваходы і

фасады. Падзея сьцягнула на ўрачыстасьці многія тысячы людзей, нават рознага веравызнаньня, кажуць, што прычашчалася каля 140 тысяч вернікаў. Загадзя ў мястэчка прыбыла пяхота, грэнадзёры і коньніца вялікага канцлера і гетмана літоўскага Міхала Карыбут-Вішнявецкага. Сам працэс каранацыі быў надзвычай трыумфальны і незвычайны. Цырымонія працягвалася некалькі дзён і суправаджалася службамі ва ўсіх цэрквах.Усе гэтыя падзеі нанова, яшчэ большай чым раней, гучнасьцю неслі ў Беларусі і за яе межы вядомасьць і славу аб Жыровічах і сьвятой іконе, штогод прыцягваючы новыя тысячы вернікаў. Манастыр багацеў, разрастаўся, сканцэнтроўва ў вакол сябе найбольш вядомыя рэлігійныя і сьвецкія таленты. Тут працавала агульнаадукацыйная школа тыпу гімназіі, стваралася багацейшая бібліятэка, працавалі свае рознага тыпу майстэрні.

Вялікі прыток сродкаў даваў магчымасьць весьці і шырокія будаўнічыя работы. Недзе ў першай палове ХУІІІ ст. збудаваны двухпавярховы мураваны жылы корпус, які ўключыў у сябе сьцены разбуранай казакамі і рускімі войскамі Багародзіцкай царквы, а ў другім канцы—рэшткі так і не дабудаванага каталіцкага касьцёла. У гэтым стагодзьдзі ўзьведзены і велізарныя трохпавярховыя мураваныя будынкі па другі бок сабора, дзе разьмясьціліся службовыя, школьныя, жылыя паверхі й іншыя службы. Пазьней тут разьмяшчалася ўпраўленьне япіскапа і духоўная сэмінарыя.

Пасьля трэцяга разьдзелу Рэчы Паспалітай (1795) Слонімшчына была далучана да Расейскай імперыі, Жыровіцкі базыльянскі манастыр страціў былое значэньне. Хоць яшчэ пэўны час заставаўся важным асяродкам рэлігійнай культуры і вуніяцтва.У 1810 г. сюды перанесьлі ўпраўленьне беларусцейскага япіскапа і Успенскі сабор стаў кафедральным.

У 1828 г. у Жыровічах пры манастыры адкрылася праваслаўная (вуніяцкая) духоўная сэмінарыя, якая па задуме мітрапаліта Іосіфа Сямашкі павінна была падрыхтаваць сьвятароў для ліківаДацыі вуніі.

У 1828 г. вуніяцкі манастыр быў пераведзены з Жыровіч у Быцень. 14 ліпеня 1839 г. па ініцыятыве мітрапаліта Іосіфа Сямашкі і групы сьвятароў-вуніятаў у Жыровічах быў падпісаны акт аб ліквідацыі вуніі і перадачы вуніяцкай царквы ў падпарадкаваньне маскоўскай патрыярхіі.

Вуніяцкая літаратура, абразы, дакументы і г.д. былі спалены на пляцы перад Успенскім саборам. А ў 1845 г. япіскапская кафедра і духоўная сэмінарыя з Жыровіч пераведзены ў Вільню.

Славуты гістарычны арэол Жыровіцкай сьвятыні пастуПова зьнішчаўся і згасаў. Храмы пераходзілі на становішча звычайных прыхадзкіх цэркваў з мізэрнымі даходамі і ахвяраваньнямі, што пазбаўляла магчымасьці весьці рамонт распачатых рэканструкцыяў будынкаў. Для Расейскай імперыі край гэты зьяўляўся бунтарнай калоніяй и ўдушэньне памяці аб былым стала галоўнай задачай улад палітычных і духоўных. Нягледзячы на ўсё, Жыровічы па старой памяці заставаліся ў вачах вернікаў сьвятымі мясьцінамі і прыцягвалі тысячы паломнікаў, асабліва ў вялікія рэлігійныя сьвяты і ў дзень 20 травеня—дзень Жыровіцкай іконы Маці Божай

У першую сусьветную вайну амаль усё, што заставалася яшчэ ў сьвятыні, было вывезена ў Маскву, у склепы сабора Васіля Блажэннага. У 1920 г. па настойлівых патрабаваньнях вернікаў і духавенства ікона была вернута ў Жыровічы, а ўсё астатняе разам з архівам і бібліятэкай да 30 тысяч

царкоўных і манастырскіх кніг страчана назаўсёды. У час нямецкай акупацыі (1915 г.) у апусьцелых манастырскіх будынках пэўны час разьмяшчаліся нямецкія вайсковыя казармы і стайні, сад спілоўваўся на дровы. Пасля вайны, калі Слонімшчына апынулася ў складзе Польшчы, сіламі і на сродкі прыхаджан жыровіцкія цэрквы былі адноўлены й адрамантаваны, паступова набыта маёмасьць. Жыцьцё праваслаўнага рэлігійнага асяродка працягвала існаваць.

Польскімі ўладамі значная частка былых манастырскіх будынкаў была канфіскавана, у прыватнасьці ў 3-х павярховых карпусах колішняй духоўнай сэмінарыі разьмясьцілі польскую сельскагаспадарчую і лясную школу, якой прыдаваліся й іншыя збудаваньні. Крыжаўзьвіжанская царква-кальварыя была захоплена каталікамі. Вялася барацьба за цудатворную ікону й іншыя будынкі Жыровіцкай сьвятыні.

Пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да СССР сытуацыя ў краі рэзка зьмянілася. Прасьледы сьвятароў, рэпрыэсыі, атэістычны разгул быў паўсюды. Жыровічы аднак працягвалі слыжыць сымбалам праваслаўнай веры. Нават у час II сусьветнай вайны Жыровічы прыцягвалі вернікаў і несьлі надзеі на лепшае. Хоць у мястэчку і разьмяшчаўся акупацыйны апорны пункт, стаялі падразьдзяленьні кабардзінскай коньніцы, але праваслаўную сьвятыню ніхто не чапаў.

З 1945г. пры Жрыовіцкім манастыры былі арганізаваны багаслоўскія курсы, на базе якіх у 1947 г. ўтворана духоўная сэмінарыя (названая Менскай). Кіраўніцтва сэмінарыяй і манастыром ажыцьцяўляў архімандрыт Мітрафан (Гутоўскі), якога ў 1953г. зьмяніў архімандрыт Лявоньцій (Бондар) і пратаярэй Іван Сокаль. У 1956 г. намесьнікам манастыра і рэктарам сэмінарыі быў назначаны архімандрыт Антоній (Мельнікаў), які прабыў на гэтым пасту да закрыцьця духоўнеай сэмінарыі ў 1963 г.

У 1989 г. пры Жыровіцкім Сьвята-Успенскім манастрыры зноў пачала працаваць Менская духоўная сэмінарыя, рэктарам якой зьяўляецца япіскап Наваградзкі Канстантын. Сэмінарыі вернута частка канфіскаваных калісьці будынкаў, хоць у канцы 50-х гадоў на тэрыторыі манастыра быў узьведзены новы корпус сэмінарыі.

Жыровіцкая сьвятыня з комплексам храмавых і манастырксіх пабудоваў, якія захаваліся да нашых дзён, цікава ня толькі як унікальны рэлігійны асяродак, але й як помнік архітэктуры і гісторыі, як сымбал складанага і нялёгкага лёсу беларусаў. Гэта цудоўны вастравок нашай яшчэ не раскрытай да канца духоўнай спадчыны.

*Успенскі сабор* збудаваны ў 1565-1616гг. як галоўны храм сьвятыні. Гэта вялікі цагляны трохнефавы крыжовакупальны аб'ём, даўжыня якога каля 55 і вышыня —40 метраў, з паўкруглай алтарнай часткай ступенчатага контуру. Пачаткова галоўны фасад быў двухвежавы, пасьля разбурэньняў у 1655 г. быў адноўлены, як аднавежавы са спрошчанай купальнай архітэктурай. Сучасны выгляд храм набыў пасьля рэкаструкцыі, распачатай у1821г. і закончанай у 1867 г. Былі ліквідаваны вежы, зьменена форма сьветавога барабана і купала. У афармленьні галоўнага фасада выкарыстаны дарычны ордэр і нізкае франтоннае завяршэньне, а таксама класычныя элементы бізантыйскай архітэктуры. Найбольш эфектнай сілуэтнай часткай збудаваньня зьяўляецца яго купальнае афармленьне, якое над дахам узвышаецца на 10 метраў і надае груваcткаму аб'ёму лёгкасьць завяршэньня.

Інтэр'ер сабора захаваў пачатковыя барочныя формы. Нефы падзелены высокімі аркадамі і перакрыты цыліндрычнымі скля-

пеньнямі з распалубкамі і стукавым арнаментам. Манументальная конха цэнтральнага двухсьветлавога нефа прарэзана люнетамі й аздоблена фрэскай «Спас Пантакратар». Вялізаны авальны цэнтральны купал пры дапамозе ветразяў падтрымліваюць масыўныя слупы крыжовага сячэньня. Шырокія хоры разьмешчаны на манумэнтальнай трохпралётнай аркадзе, што разьмяшчаецца ў паўночнай-заходняй частцы храма. Лесьвіца на хоры праходзіць у тоўшчы сьцяны галоўнага фасада. Акрамя багатага архітэктурна-дэкаратыўнага афармленьня, падкрэсьленай лёгкасьці канструктыўных рашэньняў і выдатнага асьвятленьня, інтэр'ер упрыгожвае разьба і росьпіс. Увагу прыцягвае драўляны разны трох'ярусны іканастас. Яго канструкцыйную аснову складаюць паярусныя каланады карынфскага ордэра з крапаванымі антаблеманетамі і фігурнымі франтонамі. Гірлянды, херувімы, ракавіны, расьлінны арнамэнт падкрэсьліваюць стыль барока. Жывапіс іканастаса захоўвае сьляды XYIII ст.

Галоўнай рэліквіяй сабора зьяўляецца каменны абразок «Маці Божай Жыровіцкай», узяты ў чаканны сярэбраны аклад.

Сабор спэцыяльнымі мураванымі пераходамі злучаны з жылым корпусам і шматпавярховымі збудаваньнямі былой семінарыі. Пад абсіднай часткай сабора— падзямельле,у якім калісьці разьмяшчаліся грабніцы з астанкамі багатых і заслужаных вяльмож Вялікага княства Літоўскага.

У час рэканструкцыяў да сабора з паўднёвага боку прыбудавана заглыбленая ў зямлю так званая зімовая, цёплая царква сьв. Васіля, цяпер Мікольская. Астанкі з падзямельля перанесены і пахаваны ў агульнай магіле побач з Крыжаўзьвіжанскай царквой.

*Успенскі сабор*—помнік архітэктуры, які ўключае рысы барока, ракако і калсіцызму.

*Мікольская царква*, аб якой ужо згадвалася, прыбудавана да сабора ў сярэдзіне XIX ст. Гэта невялікі напалову апушчаны ў мацерык храм простай мураванай архітэктуры з ступенчатымі ўваходамі, як з надворнай часткі манастырскай тэрыторыі, так із інтэр'ера сабора. Дэкаратыўнае і мастацкае афармленьне не ўяўляе асаблівай каштоўнасьці. Збудаваньне позняе.

*Богаяўленская (Яўленская)* царква пабудавана з цэглы ў 1672 г. і адносіцца да бязвежавых адназальных храмаў малога аб'ёму. У плане будынак прамакутны, прыблізна 8 на 20 метраў. Галоўны фасад, аздоблены пучкамі паўкалон і фігурным франтонам з валютамі, нібы выстае за межы асноўнага аб'ёму і закрывае бакавыя сьцены. Над двухсхільным дахам узвышаецца невялікі купал на драўляным барабане. Бакавыя сьцены зь невялікім паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, разьмешчанымі высока, упрыгожаны карнізамі, пілястрамі і высокім цокальным выступам. Яўленская царква—помнік архітэктуры позняга барока.

*Крыжаўзьвіжанская царква*—кальварыя пабудавана з цэглы ў 1769 г. Гэта высокі адназальны храм са званіцай у выглядзе вежы над галоўным трохярусным фасадам. Такая-ж вежачка ўзвышаецца над двухсхільным дахам алтарнай часткі. Заля храма перакрыта цыліндрычным скляпеньнем з люнетамі.Над уваходам на трохпралётнай аркадзе—хоры. Шматступенчатая аднамаршавая лесьвіца займае палову будынка і мае ілюзорны працяг на алтарнай сьцяне, што стварае ўражаньне вялікай глыбіні інтэр'ера. Усходы вядуць да выявы Хрыстовага распяцьця, якое цяпер, на жаль, не захавалася. Крыжаўзьвіжанская царква —помнік архітэктуры ракако.

*Юр'еўская царква* збудавана ў XYIII ст.

на старых могілках, у паўночнай частцы мястэчка, на дамінуючым над мясцовасьцю ўзвышшы. Гэта драўляны аднazрубны, прамакутны ў пляне храм зь пяцігранным алтарным прыбудам, арыентаваным на захад, пакрыты двухсхільным дахам. Над галоўным фасадам, завершаным трохкутным усечаным шчытом—фігурная барочная вежачка. Сьцены гарызантальна ашаляваны і крапаваны вертыкальнымі лісіцамі-пілястрамі. Апсіда вылучана ўнутраным уступам. Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера—багаты іканастас з накладной разьбой. Храм уваходзіць у манастырскі комплекс, нягледзячы на аддаленасьць ад яго.

*Званіца*—гэта асобнае мураванае збудаваньне, якое разьмешчана супраць галоўнага фасада Успенскага сабора, па другі бок невялікай плошчы, збудавана не пазьней XYIII ст. і часткова рэкаструявана ў пачатку XIXст. Гэта цэнтральная квадратная ў пляне капліца, над якой у значна зьменшаным пляне надбудавана масыўная вежа званіцы, завершанай паўсферычным купалам з цыбульнай галоўкай на драўляным барабане, падобнай на галоўны купал сабора. Афармленьне галоўнага фасада званіцы выканана ў формах клясыцызму.Пакрыты I верх двухсхільным дахам. Мураваная вежа надбудаванай званіцы размешчана ў цэнтры капліцы. Ад плошчы званіца аддзелена каменным му рам і грунтова адсыпкай, што падвышае яе.

*Жылы корпус манастыра* ўзьведзены прыблізна ў канцы XYII—пачатку XYIII стст. уключае ў сябе муры былых царкоўных збудаваньняў больш раньніх часоў, але разбураных у час вайны ў 1655 г. Ён злучаны з саборам надбрамнай перахадной галярэяй. Разьмешчаны корпус на поўдзень ад Успенскага сабора, двухпавярховы, ніжні паверх перакрыты скляпеньнямі: цыліндрычнымі з распалубкамі ў калідоры і крыжавымі ў келіях. Архітэктура будынка спрошчаная і рознастылевая, што выклікана ўключэньнем ужо існаваўшых старых муроў. Асаблівую ўвагу прыцягвае ўсходняе крыло корпуса, куды ўключаны мур амаль квадратнага ў плане аднавежавага храма зь вінтавой лесьвіцай на званіцу. Захаваліся сьляды дэкаратыўнай фасаднай лепкі. Будынак корпуса ламанай планіроўкі, дах двухсхільны. Ваконныя і дзвярныя праёмы прамакутныя.

*Карпусы былой сэмінарыі* ўзьведзеныя ў пачатку XYIII ст. Гэта двух і трохпавярховыя мураваныя будынкі, аб'яднаныя агульнай планіроўкай, хоць, напэўна, будаўніцтва вялося ў некалькі этапаў. Збудаваньне, пакрытае двухсхільным дахам, мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазыцыю. Фасады рытмічна падзелены буйнамаштабнымі пілястрамі. У галоўным фасадзе пануе барочны шчыт. Аконныя праёмы даволі вялікія, аздобленыя лучковымі броўкамі. Наогул-жа архітэктурны дэкор збудаваньня даволі сьціплы і строгі. Зьмячаюць плястыку лапаткі, згрупаваныя ў кутавых частках і высокі цокаль, дзе лапаткі пераходзяць у кантрафорсы. Унутраная планіроўка галерэйная. Пад усім будынкам праходзяць калідорныя падвалы. Пад параднай заляй знаходзіцца паўпадвальная заля, сьцены якой дасягаюць амаль двухметровай таўшчыні. Калідоры і падвалы перакрыты крыжовымі скляпеньнямі. Вянчаюць будынак падстрэшны карніз, рознай формы невысокія франтовы і нізкая страха.

Пэўна, што гэтым нарысам не ахоплены ўсе славутасьці Жыровіцкай сьвятыні. Ды аўтар і ня ставіў такой мэты. Помнік яшчэ чакае сваіх дасьледчыкаў і дэталёвага апісаньня.



# НАША ГІСТОРЫЯ

## Абарона Айчыны

Леў Мірачыцкі

*Да 200-х угодкаў Вызвольнага паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі*

*Яны з намі заўсёды ў жыцьцёвым баі,*
*Яны побач, яны не мінуласьць.*
*Ларыса Геніюш.*

**Шлях да ўсьведамленьня падзеі**

Лекцыі настаўнікаў гісторыі, у якіх жыва паўстае наша мінуўшчына, яе падзеі і постаці заслужаных людзей—абаронцаў Айчыны—заўсёды хвалявалі. У думках адразу-ж згадваюцца шаноўныя педагогі Франьціша Коляса[1], Вэрнард Мантойфэль[2], Аляксандар Гурыновіч[3] і родная матуля Гэлена з роду Курлютовічаў[4], якія ўзбагачалі хрэстаматыйнымі ведамі аб нашым народзе, тактоўна прывівалі цікавасьць і імкненьне да праўдзівага спасьціжэньня гістарычнай спадчыны.

Памятаю, спыніўся неяк перад намі ў клясе глыбокапаважаны пэдагог Гурыновіч і нібы перад алтаром пачаў прамаўляць:

*Божа, паратуй Літву ад напасьці.*
*Край наш каханы і дарагі,*
*Памажы захаваць наша шчасьце—*
*Вольнасьць нашу, а чужынцаў спыні.*
*Тых, хто йдзе, каб нас зьняволіць,*
*Прымусіць зрачыся традыцыяў і звычаяў свойскіх,*
*Памажы і ім свой крок запаволіць,*
*Учынкі ўзважыць і дахаты вярнуцца прыстойна.*

Словы малітвы часоў Касьцюшкаўскага паўстаньня з вуснаў настаўніка па гісторыі западалі ў душы і сэрцы вучняў Цырынскай школы, якая з бласлаўленьня яе дырэктара Барыса Сладкоўскага[5] не спыняла сваю дзейнасьць і ў часе Другой сусьветнай вайны да сярэдзіны 1942 году.

Чыталася лекцыя пра Тадэвуша Касьцюшку —кіраўніка вызвольнага паўстаньня 1794 года й яго лёс. Мы ціха сядзелі й уважліва слухалі выкладчыка. Ён-жа спакойна працягваў знаёміць з падзеямі далёкага часу, адказваў на пытаньні, тлумачыў. [6]

Зь ілюстрацыяў нам уяўляўся старадаўні Кракаў, куды з эміграцыі вярнуўся наш зямляк-літвін (беларус) Андрэй Тадэвуш Бэнавэнтуа Касьцюшка (1746-1817), каб па даручэньню Эміграннцкага Цэнтру ў Саксоніі непасрэдна ўзначаліць паўстаньне супраць непрыяцельскіх войскаў, якія запаланілі землі Рэчы Паспалітай —аб'яднанай фэдэратыўнай дзяржавы Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага —з мэтай адмяніць Канстытуцыю Трэцяга Траўня 1791 года і прысвоіць вялікія часткі тэрыторыі краіны. [7]

Адразу-ж узьнікла пытаньне, а чаго-ж баяліся суседнія манархі і частка сваіх рэакцыйных магнатаў і шляхты? Аказалася,

іх непакоілі перш за ўсё прагрэсыўныя рэформы, якія былі накіраваны на ўмацаваньне палітычнай і эканамічнай магутнасьці дзяржавы, яе сувэрэнітэту і незалежнасьці. Палохала іх Канстытуцыя Рэчы Паспалітай —першая ў Эўропе і другая ў сьвеце дэмакратычная канстытуцыя пасьля абвешчанай Паўночна-Амэрыканскімі Злучанымі Штатамі. Яна, бяспрэчна, магла ўплываць на ўстоі імпэрскіх манархіяў Расеі, Прусіі й Аўстрыі, бо несла передавыя ідэі Вялікай французскай рэвалюцыі, была яе працягам. У гэтай краіне, нягледзячы на ўнутраныя непаладкі, ужо шырылася Асьветніцтва й ажыўлялася грамадзка-палітычная думка. Адкрываліся пэрспэктывы ліквідацыі фэўдальнай манархіі, надыходзіў канец свавольству міністраў з магнацкай пыхлівасьцю. Было бачна, што Канстытуцыя Трэцяга Траўня абарняе інтарэсы сярэдняй шляхты, мяшчан, вернікаў усіх канфесыяў, —каталіцкага, вуніяцкага, праваслаўнага мусульманскага, гэбрэйскага.Былі ўведзены зьмены ў арганізацыі дзяржаўнага кіраваньня. Улада падзялялася на заканадаўчую і выканаўчую. Паспаліты (просты) люд знаходзіўся пад абаронай права і ўрада[8]. З гэтага вынікала, што сяляне атрымоўвалі грамадзянскія і людзкія правы.

Мяшчане, а іх было каля 20 працэнтаў, мелі права ўдзельнічаць у палітычным жыцьці дзяржавы. У Канстытуцыі адзначалася, што ўсе грамадзяне зьяўляюцца абаронцамі нацыянальнай цэласьці і свабоды Рэчы Паспалітай.[9]

Такім чынам, згодна Канстытуцыі Трэцяга Траўня, прызнаваліся правы ўсіх саслоўяў, адкідаваўся прынцып аднагалоснага прыняцьця пастаноў сойма, выбарнасьці караля і вялікага князя,а гэта спрыяла стабільнасьці краіны, павышала яе аўтарытэт,згуртоўвала яе грамадзянаў-палякаў і ліцьвіноў (беларусаў), русінаў (украінцаў), татараў, гэбрэяў.Канстытуцыя і рэформы вялі краіну да росквіту. Праціўнікамі імпэрскія дзяржавы, якія бачылі небясьпеку і таму былі зацікаўлены згубе Рэчы Паспалітай.

## Прысяга на вернасьць

Надыйшоў дзень 24 сакавіка. Ён выдаўся па вясноваму сонечным і вельмі ціхім. На агромістым пляцы Кракаўскага рынку сабралася шмат людзей розных станаў. На фоне старадаўніх камяніц і маўклівых вежаў сьвятынь прыгожа выглядаюць іх сьвяточныя ўборы. Непадалёку ад Сукеніцаў—гандлёвых радоў, насупраць сьвятыні Капуцынаў ўрачыста застылі ў парадней форме вайскоўцы мясцовага гарнізона. На передзе іх начальнік генерал Вадзіцкі. З правага боку стаялі ратнікі на чале з прэзыдэнтам места Ліхоцкі. Бліжэй да Флёрыяньскага завулка красаваліся шэрэнгі рамесьнікаў са сваімі цэхавымі штандарамі, на якіх можна было прачытаць: «Вольнасьць або сьмерць», «Права і волю». [10]

Але вось на вежы марыянцкага касьцёлу трубач пратрубіў дванаццатую гадзіну. У гэты момант з вузкай вулачкі Сьвятой Ганны выехаў генерал Тадэвуш Касьцюшка ў суправаджэньні Рафаіла Калантая і генерала Заёчака, за якімі сьпяшылі штабныя афіцэры і людзі ў цывільным.

Люд розных станаў і вайскоўцы на пляцы сустрэлі іх бурнымі воклічамі: «Віват!», «Няхай жыве вольнасьць», «Касьцюшка з намі!»

Генерал Вадзіцкі страявым адмераным крокам накіраваўся да Касьцюшкі й аддаў яму рапарт.

Пачалося прыняцьцё прысягі на вернасьць Айчыне. Прысягалі ўсе жаўнеры

—шэрагоўцы, кавалерысты—уладны, афіцэры мясцовага гарнізону.Кожны зь іх прысягаў, што будзе верны свайму народу і падпарадкоўвацца Тадэвушу Касьцюшку, найвышэйшаму кіраўніку паўстаньня, пакліканым Айчынай на абарону вольнасьці і незалежнасьці Рэчы Паспалітай.[11] А калі запанавала цішыня, ля дзяржаўнага штандару «Арла і Пагоні» спыніўся Тадэвуш Касьцюшка, сын Тэклі і Людвіка Касьцюшкаў, наш літвін-беларус з-пад мястэчка Косава, ужо пасьпеўшы стаць нацыянальным героем Амэрыканскіх Злучаных Штатаў,дзе ў 1776-1783 гадах прымаў удзел у змаганьні за вольнасьць і незалежнасьць краіны.

І вось да прысутных далятае чаканы ягоны голас: *«Я, Тадэвуш Касьцюшка, перад Богам прысягаю ўсяму народу, ... што давераную мне ўладу не выкарыстаю ў чыхнебудзь інтарэсах, буду карыстацца ею выключна для забясьпячэньня недатыкальнасьці граніцаў аднаўленьня незалежнасьці нацыі і сьцвярджэньня ўсеагульнай свабоды. Ды дапаможа мне Усемагутны і нявінныя мукі сына Ягонага»* [12]

Кожнае слова прысягі Тадэвуша Касьцюшкі даходзіла ясным і зразумелым да ўсіх патрыётаў роднай яму Айчыны, у якіх ён шчыра верыў і сваім сэрцам і сваім розумам.



Прысяга Тадэвуша Касьцюшкі 24. 03.1794 г. Згодна карціны М. Стаховіча

Да асобы Касьцюшкі, яго статнай вайсковай асанкі былі скіраваны позіркі ўсіх прысутных. Жанчыны і дзяўчаты зачараваны былі таксама ягонымі густымі і доўгімі папялістымі валасамі, што прыгожа пераліваліся на сонцы ў гэты пагожы ўрачысты дзень.

Пасьля ўрачыстасьць працягвалася ў мясцовай ратушы. Там зачытваўся Акт паўстаньня грамадзян Кракаўскага ваяводства, у якім выкрывалася подласьць і махлярства імпэратрыцы Кацярыны II і прускага караля Фрыдрыха Вільгельма. Гаварылася, што няма больш ганебнай хлусьні, прытворства

і падману, якімі-б не зганьбілі сябе гэтыя разбойніца і разбойнік, дагаджаючы сваёй сквапнасьці, жадаючы «*распаўсюдзіць панаваньне тыраніі на суседнія народы, царыцы, утойваючы свае далейшыя намеры, небясьпечныя для эўрапейскіх дзяржаваў, прысьвяцілі сябе варварскай і ненажэрнай помсьце. Яна топча самыя сьветлыя правы свабоды, бясьпекі, недатыкальнасьці асобы і маёмасьці грамадзянаў*».

Далей гаварылася, што толькі здраднікі Айчыны могуць карыстацца яе прыхільнасьцю і беспакарана чыніць свае злачынствы [13].

У першы дзень паўстаньня Касьцюшка зьвярнуўся з адозвамі «Да войска», «Да грамадзянаў», «Да духавенства», «Да жанчынаў», у якіх заклікаў усіх патрыётаў і патрыётак падтрымаць абаронцаў Айчыны. [14]

## *Асобныя тлумачэньні і бібліяграфія*

1. Коляса Ф. - кіраўнік Польскай дзяржаўнай школы ў гмінным мястэчку Цырын Наваградзкага павету, Наваградзкае ваяводзтва; вядомы асьветнік культурнай працы ў даваенныя гады.

2. Мантойфэль Б.—настаўнік Цырынскай школы, выкладчык гісторыі, затым у савецкі час—выкладчык нямецкай мовы, фізікі, геаметрыі і школьны бібліятэкар.

3. Гурыновіч-выкладчык гісторыі ў Цырынскай школе, вядомы культурны і грамадзкі дзеяч, падарожнік, у вёсцы Веравічы меў сядзібу і невялічкую узорную гаспадарку тыпу «дацкага» мікрафаль-варачка.

4. Сялянскі род Курлютовічаў паходзіць зь вёскі Крынкі, што непадалёку ад мястэчка Карэлічы. У часы Першай сусьветнай вайны, калі родныя мясьціны Наваградчыны былі ахоплены франтавымі дзеяньнямі. Г.Курлютовіч дзяўчнкай-бежанкай апынулася ў Маскве, дзе наведывала публічныя лекцыі вучоных па гісторыі Бацькаўшчыны, што арганізоўваліся ў 1918 г. (ліпень-жнівень) пры Беларускім навукова-культурным таварыстве, і адначасова стала слухачкай заняткаў у Беларускім народным універсытэце.

5 Сладкоўскі Н.—настаўнік школы-сямігодкі. Пасьля забойства «начнымі гасьцямі» роднага бацькі і бацькоў каханай дзяўчыны Аляксандры Чэчат. Сладкоўскі выехаў , эміграваў у Канаду.

6 Тэрмін паняцьце «Літва» —старадаўняя назва зямлі ў Верхнім Панямоньні і на Міншчыне, у гістарычных крыніцах сустракаецца на пачатку XI ст., а пазьней — найменьне княства-дзяржавы. Верагодна, што і радкі малітвы ўзьніклі тут і былі запісаны А. Гурыновічам.

7 Историля южных и западных словян Москва, 1969, с. 152-156.

8 Там-жа.

9 Юхо Я.А. За вольнасьць нашу і вашу. Мн., 1990, с.7, 19-24.

10 Kopczewski J.S. Tadeusz Kosciuszko, Warszawa 1968, s. 66-70.

11 Там-жа

12 Там-жа

13 Korzon T. Kosciuszko, biografia z dokumentow wysnuta, Krakow, Warszawa, 1894, s. 206

14 Юхо Я.А. За вольнасьць нашу і вашу. Мн., 1990, с.28



# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў



## *Гомельскя вобласьць*

Міхась Белямук



***Любеч, Лоеўскі р-н***

Час знойдзеньня скарбу не ўстаноўлены. На беразе Дняпра знайшли 7 манэтаў. Рабцэвіч атрымаў адпячаткі двух манэт, былі яны абасыдзкімі дыргемамі, адзін чакананы ў ал-Куфа (Ірак) 757/8 г. каліфам ал-Мансур, другі чаканены ў Мадынат ас-Салям-Багдадзе 868/9 г. каліфам ал-Мутаз.

*Рабцэвіч[8] б.6.*

***Мадора, Рагачоўскі р-н***

У 1967 г. Г.Салаўёва раскапала 6 курганоў і знайшла сярэбраны драцяны бранзалет, сярэбраны драцяны пярсьцёнак і шклосярэбраныя і шклозалочаныя пацеркі.

У 1978 і1979 гг. В.Рабцэвіч з А. Плавінскім раскапалі 7 курганоў, у трох курганах з жаночымі пахаваньнямі былі знойдзеныя шклозалочаныя пацеркі.

*Соловьева [7] б.250 Плавінскі [3] б.41 Яніцкая б. 144 , № 84,*
*ЗПГКБ Гомель б.304, №№ 1613 А, 1613 Б*

***Мазыр***

У 1946/47 г., як паведаміў А. Янічэнка Л.Побаля, недалёка вул. Камсамольскай А.Афанасьева знайшла жбан, у якім былі залатыя аздобы. Знойдзеныя рэчы забраў ювелірторг, і там яны прапалі. Што гэта за аздобы, якога стагодзьдзя няведама.

*Поболь [2] б.270, №551*

**Мазыр**

У 1951 г. была знойдзена бронзавая рымская манэта Гардыяна III, чаканеная ў горадзе Аніхіала (Фракія) 238-244 г. AV манэты: бюст Гардыяна й яго жонкі Транквіліны, зьвернутыя адзін да аднаго тварам. RV манэты: багіня Згоды з пацерай і рогам ўраджайнасьці. Манэта перахоўвалася ў Мазырскім музэі.

*Рябцевич б. 189, №21, Рябцевич [8] б. 3, №57, Побаль[2] б. 270, №555,*
*Кропоткин [5] б. 95, №180.*

**Мазыр**

У 1982 г. Залашка на гарадзішчы Кімбараўка, якое на прадмесьці горада на беразе р. Прыпяць, знайшоў падчас раскопкаў арабскі дыргем Абасыдаў, каліфа ар-Рашыда, чаканены ў ал-Мухамедыя (Ірак) 798/9 г.

*Залашка б. 37-38, Залашка [2] б. 354, 3 ПГКБ Гомель б.253, №1266А*

Працяг. Пачатак у №6(16)—2(32)

**Майсеевічы, Петрыкаўскі р-н**

Перад 1936 г. на селішчы была знойдзена скандынаўскага паходжаньня сярэбраная ажурная падвеска. Захавалася толькі верхняя частка падвескі з выявамі «хапаючых зьвяроў» у стылі Барэ.

*Іоў і Вяргей б. 122-123.*

***Макарычы, Петрыкаўскі р-н***

Перад 1983 г. Л.Побаль каля вёскі на селішчы знайшоў абломак сярэбранае аздобы.

*Поболь [2] б. 278, № 666*

***Маклашэвічы, Добрушскі р-н***

Да 1917 г. недалёка станцыі былі знойдзеныя рымскія манэты: бронзавая вялікая імп. Антоніна Пія (138-161), медзяная імп. Максенція (307-312), дэнары Фаўстыны (якой ?), Септымія Севера (193-211) і другія. Манэты гэтага скарбу атрымаў Турцэвіч у Нежыне (Украіна).

*Кропоткин [2] б. 96, №1377* *Рябцевич б. 191 №22*

***Мікулічы, Брагінскі р-н***

У 1890 г. У.Завітневіч у кургане знайшоў «абломак сярэбранай манэты, здаецца ,што арабскай». Такая інфармацыя знаходзіцца, паводля В.Рабцэвіча, у Архіве Археалягічнай Камісыі. Хаця У. Завітневіч і ня ёсьць арабіст, але В.Рабцэвіч не сумняваецца, што ён правільна акрэсьліў манэту. Шкада толькі, што яна засталася нерасчытанай.

*Рабцэвіч [8] б.5, №55* *Рабцэвіч і Суканаў б. 35, №16*

***Мікулічы, Брагінскі р-н***

У 1975 г. В.Собаль, а у 1977 г. Г.Залашка дасьледывалі курганны могільнік і знайшлі манэты X—XI ст. Мы ня маем інфармацыяў, што гэта за манэты. Можна толькі прыпушчаць, што яны знайшлі арабскія дыргемы.

*ЗПГКБ Гомель. б.100. №284*

**Мохаў, Лоеўскі р-н**

У 1890 г. У.Завітневіч раскапаў некалькі курганоў, пры жаночым касьцяку знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

*Арх. Нум. і Гер. Беларусі, Мн. 1979 г. б.124.*

**Надаткі, Мазырскі р-н**

У 1982 г. Г.Залашка раскапаў 3 курганы, у адным знайшоў пры жаночым пахаваньні кавалак бізантыйскай тканіны, гафтаванай залатымі ніткамі.

*ЗБГКБ. Гомель, б. 263, № 1348*

**Нісімкавічы, Чачэрскі р-н**

У 1886 і 1888 г. Е. Раманаў праводзіў раскопкі курганнага могільніка. У курганах

знайшоў пры жаночых пахаваньнях пярсьцёнак сярэбраны, пацеркі сярэбраныя філігранавыя, пацеркі шклозалочаныя і шклосярэбраныя.

*Романов [5] б.122, Соловьева б. 64, №132, Яніцкая б. 129, №22*

**Нісімкавічы, Чачэрскі р-н**

У 1981 г. У.Багамольнікаў раскапаў 17 кургановў. У курганах з жаночымі пахаваньнямі знаходзіў пацеркі шклозалочаныя.

*Богомольников [5] б.341, ЗПГКБ Гомель б. 362, №2014 Б*

**Новы Крыўск, Рагачоўскі р-н**

У 1969-1970 гг. Г.Салаўёва праводзіла раскопкі курганнага могільніка. У курганах з жаночымі пахаваньнямі знайшла 9 сярэбраных скранёвых сяміканцовых кольцаў, сярэбраны віты бранзалет, пацеркі шклозалочаныя. Аздобы датуюцца XI—XII стст.

*Соловьева [8] б. 66-67, ЗПГКБ Гомель б.305, № 1618*

**Покаць, Чачэрскі р-н**

У 1923/24 г. Артамон Юрчанка выараў 5 арабскіх дыргемаў. Ён прадаў 2 дыргемы І. Слюсару, а Слюсараў ахвяраваў іх беларускаму музэю ў Менску . Музэй паслаў Р.Фасмеру для расчытаньня. Ад Р.Фасмера атрымалі паведамленьне, што дыргемы ёсьць:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Абасыдаў | чаканеныя ў | Багдадзе | Ірак | 777/8 | ал-Махды |
| Абасыдаў | " | ал-Мухаменыя | Іран | 797/8 | ар-Рашыд |

*Харлаповіч б. 291, №32, Фасмер [2] б. 316, Я50, Кропоткин б. 93, №179*

**Прыбар, Гомельскі р-н**

У 1890 г. М. Філонаў ва ўрочышчы Белыя Магілы раскапаўнекалькі кургановў і знайшоў бразготкі пазалочаныя і шклозалочаныя пацеркі.

*Романов [5] б. 126, Соловьева б. 65, №161, Штыхов [2] б.100, №143, Яніцкая б. 129, №23*

**Пятроў, Гомельскі р-н**

У 1888 г. Е. Раманаў раскапаў 4 курганы на беразе р. Іпуці. У кургане з жаночым пахваньнем знайшоў сярэбраны пярсьцёнак .

*Романов б. 135-136, Русанава [2] б.34, №133, Соловьева б. 64, № 152*

**Рагачоў**

У 1928 г. студэнт Маскоўскага ўнівэрсытэту Іваноў праводзіў раскопкі кургановў каля Рагачова. Людзі памятаюць, што ён знайшоў сярэбраныя аздобы, якія забраў у Маскву.

*Каваленя б.148*

**Рагачоў**

У 1973 г. А. Рыкуноў купіў для свайго збору манэту, знойдзеную ў горадзе,

Нумізматычны кабінэт БДУ атрымаў ад яго невыразны адбітак, але змаглі расчытаць, што яна зьяўляецца арабскім дыргемам, чаканеным ў Багдадзе Абасыдамі.

*Рабцэвіч і Стуканаў б. 38, №21.*

**Рагачоўскі р-н**

У 1896 г. С.Церха раскапаў некалькі курганоў і знайшоў 5 шклозалочаныя пацеркі.

*Поболь б.125, №334, 335*

**Рамановічы, Гомельскі р-н**

У 1890 г. М.Філонаў раскапаў 10 курганоў ва ўрочышчы Баравіца і знайшоў сярэбранае скранёвае кальцо, сярэбраны пярсьцёнак і пацеркі шклозалочаныя.

*Романов [5] б. 124, Соловьева, б. 65, №170, Штыхов [2] б.101, №147*

**Рандоўка, Гомельскі р-н**

У 1890 г. і 1892 г. М. Філонаў раскапаў некалькі курганоў ва ўрочышчы Новы Млын каля р. Узы. Курганы з XI ст. , у якіх знайшоў сярэбраны пярсьцёнак і пацеркі шклозалочаныя.

*Романов [5] 126, Соловьева б. 65, №167, Штыхов [2] б . 100, №146*
*Яніцкая б. 144, № 89.*

**Рудня, Кармянскі р-н**

19 чэрвеня 1954 г. Акадэмія навук БССР атрымала ліст ад П.Гушчы, што знойдзены арабскія дыргемы VIII—IX стст. Паколькі ў тым-жа часе ў вёскі Касаляцкі с/с Літвінавічы быў знойдзены скарб арабскіх дыргемаў, да інфармацыі П. Гушчы аднесліся скептычна, і ніхто туды не паехаў, каб праверыць інфармацыю.

*Мельникава б.148*

**Рычоў, Жыткавіцкі р-н**

У 1927 г. А. Каваленя і С. Шутаў раскапалі 3 курганы, знайшлі сярэбраную круглую арнамэнтаваную падвеску, 3 сярэбраныя філігранавыя пацеркі і пацеркі шклозалочаныя.

*Каваленя і Шутаў б. 368 , Кухаренко б. 30, № 196, Яніцкая б. 144, №90*

**Рэчыца**

У 1909 г. на правым беразе р. Дняпра на гарадзішчы прыпадкова знойдзеная медзяная бізантыйская манэта імп. Яна Цімісхія з 964 г.

*Штыхов і Лысенко б. 131*

**Рэчыца**

У 1913 г. на беразе р. Дняпра знайшлі бізантыйскую медзяную ананімную манэту.

*Кропоткин [3] б. 49, №300*

**Саланое, Жлобінскі р-н**

У 1905 г. Е. Раманаў у кургане на беразе р. Дняпра ў труне з дубовых плах пры пакойніцы знайшоў 4 сярэбраныя завушніцы і нямецкі дэнары X ст.,чаканены ў Кёльн.

*Романов [6] б 46, Потин [3] б.200, Потин [2] б. 166, № 186.*
*ЗПГКБ Гомель,б. 181, № 841, Рабцэвіч [8] б.3, № 73*

**Слаботка Мазырскі р-н**

У 1961 г. была знойдзена ананімная бізнатыйская медзяная манэта, чаканеная не раней канца XI ст. на AV манэты пагрудны выяў Хрыста, на RV—Богамацеры—Арната.

Рабцэвіч [8] б.6, №11

**Старая Рудня, Жлобінскі р-н**

Каля 1888 г. Е. Раманаў знайшоў у кургане 16 шклозалочаных пацерак, праўдападобна, яны былі нашыты на тканіну, якой абвязывалі галаву.

*Яніцкая б. 130, № 31*

**Струмень, Кармянскі р-н**

У 1974 г. сяляне ў кургане знайшлі 4 дэнары, але чые яны няведама.

*Равдина б. 113, №200*

**Студзёная Гута, Гомельскі р-н**

У 1890 г., М. Філонаў раскапаў некалькі курганоў ва ўрошчы Баюры. У 1897 г. Е. Раманаў там-жа раскапаў 5 курганоў. Хто зь іх знайшоў білонавую фібулу ня ведама, але абое знайшлі шклозалочаныя пацеркі.

*Романов [5] б.127, Соловева б. 66, № 197, Штыхов [2] б. 101, № 153,*
*Яніцкая б. 130, 32*

**Сьцяпанаўка, Рэчыцкі р-н**

У 1890 г. В. Завітневіч раскапаў каля 20 курганаў і знайшоў значную колькасьць пацеркаў шклозалочаных.

Русанава [2] б. 28 № 4

**Тураў, Жыткавіцкі р-н**

У 1909 г. А. Панаў, А. Снітка, Д. Скрынчанка на мейсцы пабудовы Барысаглебскай царквы, у пласьце з XII ст. знайшлі з чырвонага шыфэру саркафаг у якім былі косьці і кавалкі золататкані—парчы.

*Кухараенко б. 30, № 197, Лысенко [6] б. 40*

**Тураў, Жыткавіцкі р-н**

У 1961 г. М.Палубаярынава дасьледывала замчышча ў гарызоньце XII—пачатку XIII ст. знайшла кавалкі шкла, якое было зваранае па так званаму «рымскаму рэцэпту» гэта значыць, што яно бізантыйскага, сырыйскага ці егіпецкага паходжаньня. Шкло сіняга

колеру размаляванае золатам з чырвонай грунтоўкай сьведчыла, што посуд паходзіць з сырыйскіх гарадоў Рака або Алепо. Шкло сіняе або празрыстае, размаляванае эмальлю і золатам без чырвонай грунтоўкі, паходзіць зь Бізантыі. Знайшліся адломкі шкла, на якіх пад мікраскопам заўважыліся золатам намаляваныя арабскія літары, такі посуд паходзіць з сырыйскіх або егіпецкіх ювелірных майстэрняў.

*Полубояринова б. 47, Полубояринова*[2] *б. 233, 235, 238*

**Тураўскі п/с, Жыткавіцкі р-н**

У 1929 г. А. Каваленя і С. Шутаў, дасьледывалі курганны могільнік ва ўрочышчы Баруйкава Гара, 3 км ад Турава. Яны знайшлі 3 сярэбраныя філігранныя скранёвыя кальцы.

*Каваленя і Шутаў б. 358 Яіцкая б. 144-145, № 91*

**Уваравічы, Буда-Кашалёўскі р-н**

Е. Раманаў паведамляе, што настаўнік мясцовай школы ў1892 г. раскапаў курган і знайшоў на шыі пакойніцы падвеску , якая была арабскім дыргемам, чаканеным у 933 г.

Романов[5] б.125, Соловьева б.67 № 210, Кропоткин б.93, №181 Штыхов[2] б.96, №77

**Ухава, Веткаўскі р-н**

Каля 1895 г. сяляне раскапалі некалькі курганоў і знайшлі сярэбраныя манэты ,але няведама, што гэта за манэты.

*Соловьева б. 67, №211, Штыхов*[2] *б. 98, №110*

**Хамінічы, Лоеўскі р-н**

Е. Раманаў у 1910 г. павядоміў, што *«знайшлі скураны мяшок з хазарскімі манэтамі УІ ст.»*. У лісьце В.Рабцэвіч выказаў наступныя меркаваньні: *«калі прыняць на веру, што манэты з УІ ст., то размова ідзе аб скарбе драхмаў Сасанідаў, што ёсьць мала праўдападобным, бо сасанідзкія драхмы ў скарбах Усходняе Эўропы сустракаюцца вельмі рэдка. Яны пераважна ёсьць як адзіночныя экземляры ў скарбах з арабскімі дыргемамі. Такія манэтныя скрабы былі закапаныя не пазьней першай трэці ІХ ст. Такім чынам, калі ў скарбе вёскі Хамінічы былі сасанідзкія драхмы з арабскімі дыргемамі, то скарб з першай трэці ІХ ст, бо ў пазьнейшых скарабах дыргемаў драхмы не сустракаюцца»*.

Пажадана разгледзець другую інфармацыю Е. Раманава. Ён піша, што знайшлі мяшок з манэтамі, Рабцэвіч кажа, што *«прыблізна 100 дыргемаў або драхмаў можа зьмясьціцца на далоні»*. Калі быў не мяшок, а «мяшочак», то было драхмаў і дыргемаў разам некалькі сотняў.

В.Рабцэвіч у лісьце кажа, што *«можна вызначыць прыблізную дату знойдзеньня скрабу. У архіве я адшукаў паведамленьне, што ў 1897 г. Е. Р.Раманаў перадаў Археалагічнай камісіі саманідзкую драхму Хосроя ІІ-га, знойдзеную ў Гомельскім уезьдзе»*. В.Рабцэвіч робіць выснову, *што «драхма Хосроя ІІ, з 590-628 г. праўдападобна, паходзіць з таго скарбу, аб якім пісаў Е.Раманаў у 1910 г.»* Значыць, для знойдзеньня скрабу ў Хамінічах можна ўмоўна вызначыць дату 1896-1897 гг.

*Романов*[5] *б.128 Рабцэвіч*[8] *б. 4. №81*

## Бібліяграфія


| | |
|---|---|
| Полацак №18 | Кропоткин, Кропоткин[2], Поболь, Поболь[2], Романов, Рябцэвич, Рабцэвіч і Стуканаў, Яніцкая |
| Полацак №19 | Штыхов [2] |
| Полацак №21 | Кропоткин [3], Потин [2] |
| Полацак №22 | Потин [3], Равдина, Харлаповіч |
| Полацак №23 | Фасмер [2] |
| Полацак №27 | Кухаренко |
| Полацак №28 | Кропоткин [5] |
| Полацак №31 | Романов[5], Соловьева |
| Полацак №32 | Каваленя, Мельникова, Плавінскі [3], Рабцэвіч[8], Романов [6], Русанава [2], Соловьева [7], Штыхов і Лысенко |

Богомольников В.В. [5] Раскопки в Чечерске и Нисимовичах. — А.О. за 1981 г. М. 1983

Залашка Г.М. Кимбараўскае гарадзішча — Пом. гіст. культ. Беларусі, Мн. 1983, №4

Залашка Г.М.[2] Исследования в Белорусском Полесье. — А.О. за 1982 г. М. 1984

Іоў А.В., Вяргей В.С. Гандлёва-эканамічныя сувязі насельніцтва заходняга Палесься ў IX-пачатку XI ст. — Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн. 1993, частка1.

Каваленя А. З., Шутаў С.С. Матэр'ялы з дагістарычнай Тураўшчыны.— Працы археолёгичнай камісыі. Мн. 1930, т.II

Лысенко П.Ф. [2] Города Туровской земли. Мн. 1974

Полубояринова М.Д. Раскопки древнего Турова. КСИА, М. 1963, №96

Полубояринова М.Д. [2] Стеклянная посуда древнего Турова С.А. М. 1963, №4

Соловьева Г.Ф. Славянские курганы близ села Новый Кривск — КСИА, М. 1971, №125.




1.Ас рымскага ім. Антоніна Пія (138-161) 2.Дэнар рымскага імп. Септымія Севера (193-211)
3. Драхма Сасанідаў Хосроя II (590-628) 4. Дэнар бізантыйскага імп. Яна Цімісхія (969-976)




# Як вынішчалі генафонд беларускай нацыі

Уладзімір Міхнюк
Якаў Паўлаў

Сярэдзіна 20-х—30-е годы ў гісторыі беларускай нацыі займаюць выключную ролю. Побач з несумненнымі дасягненьнямі ў разьвіцьці народнай гаспадаркі, культуры й адукацыі, адраджэньні беларускай нацыянальнай ідэі, самавызваленьні нацыянальнаабнаўленчага руху, у жыцьці грамадства мелі месца такія зьявы,як усеагульны жах, падазронасьць, «цывілізаваны» гвалт, ідэялягічны тэрор, беспадстаўныя масавыя рэпрэсіі супраць розных пластоў грамадзян рэспублікі.

У якасьці галоўнай перашкоды і небясьпекі на шляху пабудовы сацыялізму кіруючыя ўлады «адзінага і непадзельнага» СССР бачылі ў беларусізацыі,(як дзяржаўная палітыка ў БССР яна фактычна праводзілася з 20-х гадоў), рост нацыянальнае самасьвядомасьці.

Органы палітычнага вышуку і дзяжаўнай бясьпекі зь сярэдзіны 20-х гадоў пачынаюць заводзіць дасье на вядомых беларускіх нацыянальных дзеячоў, трымаюць пад сваім тайным канторлем іх дзейнасьць, прафэсыйна кантраляваць сам працэс беларусізацыі, каб не дазволіць яму зьбіцца ў непажаданым (нацыяналістычным—па іх ацэнкам) напрамку.

На тыя зьявы свой уплывовы адбітак адкладавала тое, што ў сярэдзіне 20-х гадоў пад ціскам Сталіна й яго блізкага асяродзьдзя пачала складацца новая структура кіраўніцтва партыі бальшавікоў, і падпарадкаванай ім улады. Па іх схемах і планах сама партыя (а дакладней—яе вярхі) павінна была адыграць галоўную ролю ў ажыцьцяўленьні задуманнага «рашаючага павароту ва ўсёй палітыцы», «вялікага пералому» * ў жыцьці грамадства. Кіруючы апарат цэнтра быў пастаўлены над усёй партыяй. Сама яна ператваралася ў строгую герархію камітэтаў, цалком падначаленых сакратарыяту ЦК, дзе галоўная роля належыла першай асобе. Жорсткай сталася кіраўніцтва прэсай і выдавецтвамі: любы крытычны матэрыял аб дзейнасьці партыйных камітэтаў, аддзелаў дзяжаўнай бясьпекі і пракуратуры дазвалялся друкаваць толькі з дазволу вышэйшых асоб. Сувязь паміж самімі каміэтэмі рэзка звужалася: яна набыла характар закрытых лістоў, сакрэтных дырэктыў і цыркуляраў, шыфраваных тэлеграм, пасылкай на месцы спэцыяльных эмісараў.

* Выраз гэты зьявіўся 7 кастрычніка 1929 г. у «Праўдзе» у артыкуле Сталіна «Год вялікага пералому».

Характэрнай рысай таго часу становіцца зрошчваньне партыйных і дзяржаўных структур. У тэорыі і на практыцы ўлада пачала адыходзіць назад ад тых папулярных лозунгаў і ідэялаў, што раней зіхацелі на рэвалюцыйных штандартах. Аб'еднанае дзяржаўнае палітычнае упраўленьне (АДПУ) павінна было дапамагаць вышэйшым органам партыі ў кіраваньні грамадзтва. Адным зь яго галоўных абавязкаў стала сыстэматычнае інфармаваньне першых асоб аб палітычным становішчы на месцах, бягучых хваравітых працэсах і зьявах і на іх выснове выходзіць з канкрэтнымі рэкамендацыямі, падштурхоўваць першых асоб да прыняцьця рашэньняў, патрэбных цэнтру.

Галоўным арыенцірам у набіраўшых моц пераменах у грамдзтве станавіўся адыход ад НЭПа, вяртаньне да апрабаваных грамадзянскай вайной і палітыкай «ваеннага камунізму» надзвычайных форм кіраваньня. Партыя зноў мілітарызвалася і станавілася, згодна выразу Сталіна, «ордэнам мечаносцаў унутры савецкай дзяржавы».[1] Новая ацэнка й адпаведная ёй структура поўнасьцю адпавядала паняцьцю «дыктарура партыі». Яна мэтадычна і пасьлядоўна падмінала пад сябе ўсе дзяржаўныя структуры. Пануючымі станавіліся формулы рэваюцыйнага гвалту, тыпу: «Іншага не дадзена» (апрача «адзінага вернага курсу УКП(б)», «хто не з намі, той супраць нас», «калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць».

Трэба мець на ўвазе яшчэ і тое, што інтэлект і менталітэт тагачаснага грамадства ў значнай меры быў дэфармаваны. Тыя, хто некалі «быў нікім, а стаў усім», выдзяляліся рэвалюцыйным нецярпеньнем, ні з чым не параўнальным максімалізмам, імкненьнем надзвычай шпарка дасягнуць пастаўленай мэты (пабудовы сацыялізму) любым коштам. У вогнішчах трох рэвалюцыяў і грамадзянскай вайны выкрышталізаваўся той тып будаўніка «новага грамадства», якому былі ўласьцівы уседазвол і жорсткасьць, даходзячыя да першабытнай лютасьці: маральныя нормы і кошт чалавечага жыцьця фактычна былі растоптаны. Шырокае распаўсюджваньне ва ўладавых структурах набылі такія зьявы, як разбэшчанасьць, п'янства, блудніцтва, хапаўніцтва і г.д. Усё гэта адпаведным чынам адбівалася на палітыка-маральным стане грамадства ў цэлым, дзе мноства было заблытанага, закручанага, дзе перапляталіся дабро і нянавісьць, злачынства і самаахвярнасьць, акты й ахвяры, класавая помства і не зьнішчаная да канца міласэрднасьць.

На падставе «крутога павароту» барацьба з так званым і «буржуазнымі пераражэнцамі», «нацдэмамі», «двурушнікамі», кулакамі ў канцы 20-х-пачатку 30-х гадоў зьмяняецца ліквідацыяй «антысаветчыкаў», «агентаў варожых разведак», «ваюючых тэрарыстаў», «пракляненых шпіёнаў», дыверсантаў» і г.д. У тых стасунках такія чалавечыя каштоўнасьці, як мараль, права, адвечныя народныя традыцыі, набыткі нацыянальнай культуры, набажэнства, адкідаюцца ў бок. У абстаноўцы «вакханаліі ўлады» і самавых рэпрысіяў грамадзкая сьвядомасьць была дэзарыентавана. Частымі зьявамі сталі ўзаемны недавер, падазронасьць, шпіёнаманія, даносьніцтва самаагаворы, «самавыкрыцьцё». У працэсе палітычных і грамадзкіх «чыстак» вынішчаліся іншадумцы і «хістаючыся». Іх месца займалі «надзейныя, ідэйна вытрыманыя людзі», здатныя без усялякіх разважаньняў успрымаць і любым коштам праводзіць у жыцьцё дырэктывы й указаньні цэнтра.

Наступленьне на іншадумства творчай інтэлігенцыі і грамадзкіх дзеячоў Беларусі практычна пачалося з 1924 г. Падзеі раcь-

віваліся наступным чынам. Адна з самых уплывовых у рэспубліцы партыяў—Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, асноўным сваім складам улілася ў склад КП(б) Б. Такі-ж крок зрабілі прадстаўнікі іншых партыяў левых плыняў (бундаўцы, грамадаўцы), што якасна адбілася на зьмяненьні палітычнай і маральна-псыхалягічнай атмасфэры ў грамадстве. З аднаго боку, працягваўся працэс беларусізацыі, з другога-набірала моц палітыка ўсталяваньня аднапартыйнай сыстэмы. Праўда, сама партыя бальшавікоў ставілася не зусім маналітна. Дастаткова мецъ на ўвазе, што выхадцы зь іншых партыяў у рэспубліканскім актыве складалі на той час да 40, а ў акружным —каля 25%[2]. І хоць увайшлі яны ў Кампартыю Беларусі на ўмовах поўнага прызнаньня бальшавіцкай платформы, ідэйнаму перавыхаваньню яны падлягалі ў першую чаргу. Вырашэньне гэтай задачы бралі на сябе ЦК КП(б)Б й адпаведныя «кампетэнтныя» органы.

Дакументальна гэта даволі яскрава прасочваецца па аб'ёмістай запісцы» намесьніка паўнамоцнага прадстаўніка ДПУ у Заходнім краі А.К.Апанскага ад 28 сьнежня 1924 г. на імя тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкага. Змест запіскі адлюстроўвае намер яе аўтара дапамагчы нядаўна накіраванаму ў рэспубліку першаму сакратару зарыентавацца ў існуючай абстаноўцы і палітычна падрыхтаваць яго да неабходнасьці прыняцьця рашучых мер у нацыянальным пытаньні, асабліва пры правядзеньні беларусізацыі і ва ўзаемаадносінах зь мясцовай «дробнабуржуазнай» інтэлігенцыяй, якую даводзіцца выкарыстоўваць як прывадны рэмень у практычнай рабоце з масамі.

Да найбольш значных уплывовых літаратараў шэф ДПУ адносіў Я. Купалу, Я. Коласа, Я. Лёсіка, Зм. Бядулю, Ц. Гартнага, М.Чарота. *«Калі Ц.Гартны і М. Чарот уяўляюць сабой рэвалюцыйную плынь, адлюстроўваючы ў сваіх творах настрой сучаснай рэвалюцыйнай эпохі, —зазначаў А. Апанскі, — то першыя чатыры ярка выражаныя інтэлігенты-шавіністы. Яны ўносяць у літаратуру настроі, непрыхільныя рэвалюцыі, а часамі контррэвалюцыйныя тэндэнцыі. Найбольш цьвёрда старыя погляды на беларускасьць адстойваюць Лёсік і Колас. У іх творах надзвычай характэрнымі рысамі зьяўляецца ўхіл у бок нацыянал-шавінізму, з поўным адсутнічаньнем якіх-небудзь адлюстраваньняў перажываемага рэвалюцыйнага моманту».*[3]

Пералічыўшы безідэйныя творы Коласа («У палескай глушы», «Адгукнуўся», «Беларускія народныя казкі»), А. Апанскі засяроджаваў увагу А. Крыніцкага на творчасьці «другога сьветача беларускай літаратуры— Лёсіка». Пры гэтым ён падкрэсьліваў, што ён *«працягвае відавочна кансерватыўныя, наскрозь шавіністычныя погляды на ўсе грамадзкія зьявы»*. Далей давалася ацэнка асноўных твораў пісьменьніка: *«Кнігу «Аўтаномія Беларусі» мы забаранілі ад распаўсюджваньня як шавіністычную», яго кніга «Наша крыніца» вытрымана ў рэлігійна-шавіністычных напрамках; кніга «Беларуская мова—правапіс» дазволілі друкаваць толькі пасьля выкіду зь яе фатаграфіі Алеся Гаруна,—мацёрага праціўніка Савецкай улады і выкрэсьліваньня з гэтай кнігі звыш 60 асобных безідэйных тэрмінаў. Наступная кніга Лёсіка «Як Мікіта лес бараніў»: таксама не дапушчана да распаўсюджаваньня, «Сінтаксіс» дазволен на выданьне пасьлян 80 выкідаў. «Асноўны матыў у творчасьці М. Багдановіча» прызнаны шкодным як праваднік відавочна контррэваюцыйных ідэяў' «Беларускі прваліс» быў надрукаваны толькі*

*пасьля 20 выкідаў.»*

Адзначыўшы, што такія-ж тэндэнцыі назіраюцца і ў творчасьці Зм. Бядулі, прадстаўнік ДПУ казаў: *«Чаго можна чакаць ад гэтых рэакцыйных пісьменьнікаў, калі усе іх творы.... аднесены да катэгорыі цалкам забароненых на распаўсюджваньне»*. На падставе гэтага *«можна лічыць, што беларуская інтэлігенцыя яўна імкнецца зьвязвацца зь сялянствам і адлюстроўваць у сваіх творах ня лепшыя яго бакі, а самыя дрэнныя ідэялягічыя тэндэнцыі. Гэта дробнабуржуазная творчасьць зусім не падвяргаецца строгай партыйнай крытыцы»* [4]

Апанскі дакорліва папракаў папрэднікаў А. Крыніцкага за тое, што яны парушалі прынцыпы «бальшавіцкай вытрымкі», пры падборы кадраў, не вялі барацьбу «з антысавецкімі праяўленьнямі ў розных нацыянальных меншасьцях», у прыватнасьці з палякамі, якія складаюць 2%, асабліва яўрэямі (10%), а таксама латышамі, літоўцамі, немцамі і інш.

Раскрытыя з рознай супеньню паўнаты пастаўленыя пытаньні з чэкісцкай спецыфікай іх бачаньня, асабліва працэсаў духоўнага жыцьця нацыі, яны тым ня менш адлюстроўваюць пачатак выніштчэньня нават нязначных каранёў плюралізму й іншадумства, якім НЭП даваў пэўную прастору. Разам з тым яны сымбалізуюць высьняваньне ідэялягічных рэпрэсіяў,— дасье на нацыянальных дэмакратаў у «кампетэнтныя» органы накаплівалі даволі мэтанакіравана і з густам.

Сьведчаньнем «клопатаў» аб росьце нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў зьяўляецца другі ня менш цікавы дакумент ад тых-жа самых чэкістаў: амаль праз год, 29 кастрычніка 1925г. сьледчы аддзел ДПУ рэспублікі склаў «абгрунтаваны» аб'ёмісты «Даклад аб беларуска-эсэраўскім шавіністычным руху». Адрасаваны ён быў таксама А. І. Крыніцкаму. Засяродзім увагу на гэтым дакуменьце. Па-першае, на становішчы першага сакратара ЦК КП(б)Б Крыніцкі апынуўся напярэдадні кастырчніцкага пленуму ЦК КП(б)Б, на якім павінна была абмяркоўвацца праграма практычных дзеяньняў па далейшаму ажыцьцяўленьню беларусізацыі: палітыцы беларусізацыі афіцыйна надаваўся дзяржаўны статус.[5]. Па-другое, даклад ствараўся з загадзя зададзенай мэтай (аб чым сьведчыць спецыяльны, шмат у чым добра прадуманы падбор фактаў і прыкладаў), а менавіта запалохаць вышэйшае партыйнае кіраўніцтва рэспублікі нацыяналістычна-шавіністычнай небясьпекай. Па-трэцяе, зрабіць усё магчымае, каб прымусіць ЦК КП(б)Б ушчаміць курс на беларусізацыю, адмовіцца ад супрацоўніцтва з старой нацыянальнай інтэлігенцыяй у гаспадарча-культурным і палітычным будаўніцтве, накіраваць самаё грамадства на курс жорсткай канфрантацыі.

На самым пачатку азначанага вышэй дакументу яго творцы спэцыяльна падкрэсьлівалі, што яны ўжо неаднаразова зьвярталі ўвагу партыйнага кіраўніцтва БССР на тое, што *«беларускі эсэраўскі рух амаль цалкам асыміляваўся з махрова-шавіністычным рухам»*. У сувязі з гэтым, маўляў, змянілася й яго тактыка. Былыя эсэры ў сучасны момант спрабуюць выкарыстоўваць як легальныя магчымасьці па культурнаму, гаспадарчаму й ідэйнаму *«заваяваньню Беларусі»*, так і замаскіраваныя, падпольныя мэтады дзейнасьці. Называліся прыхільнікі першага напрамку—Маркевіч, Пашковч, Трафімаў, і інш, якія «акапаліся» ў Менску й імкнуцца кіраваць усім *«беларускім шавіністычным рухам зь нетраў самой Камуністычнай партыі Беларусі, асабліва яны намагаюцца ўзьдзейнічаць на несьвядомую*

*моладзь. Тая частка моладзі, якая стала на шавіністычны шлях гуртуецца ў нелегальных арганізацыях. Па загаду «зьверху» спачатку яна прабіраецца ў камсамол, а потым —у Камуністычную партыю.Адтуль яна будзе спрабаваць «ідэйна і культурна заваяваць Беларусь».* Асаблівым аўтарытэтам у гэтай частцы моладзі, указвалася ў дакладзе, карыстаюцца намесьнік наркома земляробства А.Адамовіч, нарком асьветы А. Баліцкі, а таксама П. Ільючонак— загадчык аддзела наркам-асьветы і некаторыя іншыя асобы. На астатнюю моладзь яны намагаюцца ўзьдзейнічаць праз легальныя гурткі самадзейнасьці, беларусазнаўства, краезнаўства і г.д. У якасьці прыкладу распаўсюджваньня «беларускага шавінізму» чэкісты прыводзілі «доказаныя» лічбы і факты. Маўляў, па маючым агентурным зьвесткам у «Белдзяржвыдавецтве» з 28 чалавек штатнага калектыву 12 асоб зьяўляюцца эсэрамі, шавіністамі, нацдэмамі. У іх ліку і такія вядомыя фігуры, як Пашковіч, Мядзелка-Грыб, Міхалевіч, Казячы, Карач, Карабач, Чаржынскі і інш. На думку складальнікаў «даклада», Наркамат асьветы Беларусі зьяўляўся сапраўдным бастыёнам беларускіх эсэраў і нацдэмаў дзе верхаводзяць мацёрыя шавінсіты (Некрашэвіч, Красінскі, Баліцкі). Дзякуючы гэтаму, амаль усе вышэйшыя і сярэднія навуковыя ўстановы Менска па ацэнцы чэкістаў, засьмечана «контрай».

У саміх вышэйшых навучальных установах іх узначальваюць Лёсік, Бадунова, Кругалевіч, Смоліч, Кіпель, Рак, Азбукін, Пашковіч, Байкоў, Курыловіч, Дружчыц і інш. Менавіта яны намагаюцца выхоўваць у шавіністычным накірунку ўсю беларускую моладзь, якая потым праз камсамол і партыю здолее ўзарваць рэспубліку знутры.

Апрача Менска, зазначалася ў дакладзе, беларускі нацыяналізм глыбока пусьціў свае карані і на перафэрыі, асабліва ў педадагічных тэхнікумах. Там таксама верхаводзяць былыя эсеры: у Полацкім педтэхнікуме—Маркевіч, у Мсьціслаўскім —Белькевіч, Апаціёнак,у Віцебскім—Дашкевіч. Што датычыць школ і дзіцячых дамоў, то яны таксама насрозь запалонены «беларускімі шавіністамі». У якасьці прыклада прыводзілася «слуцкая справа».

(Працяг будзе)

*Бібліяграфія*

1.Сталин В.И. Соч. т. 5, с. 71.
2.Крыжовы шлях. Мн., 1993, с. 143
3.Цыт. па часопісу «Полымя» , 1983, №8, с. 208, 209.
4. Таксама
5. Крыжовы шлях. Мн., 1993, с. 144



*Рак-Міхайлоўскі*
*2(14).4.1885—1937*

# Сьведчаньні арыштаў А. Смоліча

ад 20 кастрычніка 1930 г.

## *Моя политическая деятельность до 1922 года в связи с общими событиями эпохи*

С целью организовать белорусское движение в других городах Белоруссии и России в конце 1917 года была созвана в Минске белорусская конференция. В ней приняли участие представители белорусских организаций Петрограда, Москвы, Киева, Могилева и др. городов. Много было и минской публики, преимущественно враждебно настроенной к белорусскому движению, которая старалась сорвать конференцию. Благодаря этому конференция проходила неорганизованно. Первую роль на ней играл тов. Алексюк, тогда яркий сторонник соглашения с буржуазией, хотя и не без левых фраз. Под его влиянием приняты были резолюции конференции, избран Национальный Комитет под председательством Скирмунта. Он же поехал во главе делегации к Временному правительству. Делегация эта была принятая Временным правительстом холодно и возвратилась ни с чем.

На конференции присутствовало довольно много также членов БС Громады и др. социалистов. Они были созваны мною на специальное совещание, объявившее себя партконференцией БС Громады и избравшее временное бюро партии, так как почти весь старый ЦК, за исключением Бурбиса и Ивановского, находился за границей, а оба последние жили в России. Постановлено было развернуть строго партийную работу и издавать свою газету. Редактаром газеты был избран я, а небольшие средства на нее обещал дать Комитет помощи жертвам войны.

Выборы Белорусского Комитета во главе со Скирмунтом вооружили против него социалистические организации города и русскую интеллигенцию. Этим воспользовались реакционные руссификаторские элементы для того, чтобы объявить поход против всего белорусского движения. Эти элементы тогда были особенно сильны среди учительства. Поэтому на учительском съезде, а затем на крестьянском съезде, белорусским ораторам устроили крупный скандал. В это время вышел первый номер газеты «Громада» под моей редакцией. Несмотря на его левосоциалистический характер (в духе с.д. интернационалистов), крестьянский съезд встретил его тоже враждебно.

Я входил в состав белорусского Национального Комитета, представляя там левую позицию.Руководящую роль в Комитете играли Скирмунт и Алексюк. А для меня было ясно, что необходимо отказаться от коалиции, хотя в Минске силы БСГ были очень не велики. В этом направлении я выступал на пленуме Нацкомитета в мае 1917 года, когда съехалось несколько больше громадовцев, но не встретил поддержки. В начале июня 1918 г. в Петрограде была созвана конференция БСГ, принявшая временную программу партии, избравшую Центральный Комитет БСГ и решившую вести борьбу против Нацкомитета. На конференции были наиболее полна представлены Петроградские организации БСГ, среди которых было несколько рабочих-большеви-

ков,рассматривавших БСГ как какое-то междупартийное объединение. Так как в Минске организация БСГ была очень слаба, то решили издание газеты «Громада» перенести в Петроград. Там вышел, однако, только один ее номер.

Вернувшись в Минск, я настоял на созыве II конференции белорусских организаций. Она собралася в начале июля и после некоторой борьбы ликвидировала Нацкомитет. Вместо него была создана Рада белорусских организаций, в которой подавляющее большинство принадлежало БСГ и другим социалистам. Представителей крупной буржуазии в ней ужо не было. На конференции были довольно сильно представлены местные крестьянские, беженские, а также солдатские организации. В дальнейшем массовые организации очень быстро росли, особенно в армии. Радою в это время руководил фактически я; однако движение нарастало стихийно, и Рада не имела возможности даже его учитывать. Влияние армейских делегатов в ней все время возрастало. Настроения среди этой массы в начале были эсеровские, что соответствовало общему настроению армии, затем началось полевение. В армии начали сильно расти организации БСГ, впрочем, они тогда носили характер скорее внефракционных объединений белорусов-социалистов и имели пестрый состав.

Летом-же 1918 года БСГ приняла участие в выборах в Минскую городскую думу, сблокировавшись с Поалей—Цион, ЕС и СС, литовскими и украинскими социалистами. В Думу от Громады был избран я и начал там организовывать городские белорусские школы.

В начале октября собралась очередная сессия Рады белорусских организаций. Она в то время пользовалась уже таким авторитетом, что губернский комиссар соглашался уступить ей на время работы свое помещение (где теперь ЦИК). Сессия Рады была многолюдной, а настроение ее делегатов было в пользу захвата власти, я отстаивал более умеренную позицию в этом вопросе, так как ориентировался лушче других в количественном и качественном соотношении сил. Но эсеровское большинство Рады, чувстуя приближение социальной революции, торопилось. Одновременно состоявшийся войсковый Белорусский съезд Запфронта создал Войсковую Раду, влившуюся в состав конференции и усилившую ее агрессивные элементы. В результате была избрана так называемая Белорусская Рада, издавшая специальную грамоту. Правда, в самой грамоте о захвате власти ничего не говорится, но направление работы было взято достаточно определенно. Великая Белорусская Рада должна была созвать Всебелорусский съезд, нечто вроде Учредительного Собрания.

В это время состоялась и конференция БСГ. Неоднородность состава партии дала себя знать с полной отчетливостью. Конференция прошла бурно, раскололась на несколько групп, формально между собою еще не порвавших, но уже вполне к этому готовых. Большинство конференции было за поддержку Великой Белорусской Рады и ее агрессивной политики. Мои возражения против нее и здесь не встретили поддержки большинства.

Руководство Великой Белорусской Радой перешло в руки агрессивных армейских и др.) эсеровских элементов во главе с Воронкой, Ярошевичем и др. Я также входил в состав этой Рады, но играл уже в ней второстепенную роль и занимался главным образом школьными и др. культурными вопросами. Кроме 4-х уже открытых го-

родских школ с преподаванием на белорусском языке делались первые шаги по белорусизации других школ. Велась работа по организации кружков среди учащихся средних школ и, наконец, подготавливался созыв в конце декабря белорусского научного съезда. В городе тогда уже была Советская власть (Облисполкозмап), которая, однако, никаких препятствий Раде не ставила.

Рада же вела деятельную подготовку к Всебелорусскому съезду. Одновременно такую же подготовку начала вести в Петрограде белорусская секция Совета Крестьянских Депутатов, состоявшая, главным образом, из правых эсеров и ещё более правых элементов, но сумевшая каким-то образом получить согласие и даже денежную помощь от Совнацмена. Руководили ею Канчер, Гольман и др. 5 декабря фактически начался съезд, но до 15-го делегаты все еще съезжались, почему и открытие съезда откладывалось. На съезде резко выявилось 3 группы: БСГ наименьшая, но наиболее сплоченная и сильно представленная во главе с Рак—Михайловским, Дыло и др., ее поддерживали менские делегаты и делегаты от беженцев из Зап. Белоруссии. Далее шла несколько большая и все возраставшая группа с большевистскими настроениями —«левое течение» под руководством Шантыра и Фальского и, наконец, наиболее многочисленная гуппа правых эсеров, которую поддерживали крестьянские делегаты из Могилевщины и Вицебщины и во главе которой стоял Гольман, Канчер и др. Несмотря на резкие вначале расхождения, члены БСГ эсеры в конце концев согласились на декларирование Белоруской Демократической Республики. Однако сьезд не успел развить дальше своих работ, так как был распущен постановлением Облисполкомзапа.

Совет сьезда (фактически Совет старейшин) в значительной части разъехался из Минска, но его центр во главе с Воронкой полулегально продолжал работать в Минске, заменяя Великую Белорусскую раду. Я лично в работах съезда принимал слабое участие и попал только в число кандидатов Совета. Большее внимание я уделял тогда работе в ЦК БСГ. Между прочим, от имени ЦК мы тогда вели переговоры с тов. Берсоном (совнацмен Облискомзапа) о развитии белорусской культурной работы советскими органами и о введении представителей БСГ в Облискомзап. Переговоры эти результатов не дали, так как началось немецкое наступление и советские органы эвакуировались из Минска.

Момент этот был переломным в политике Белорусской Социалистической Громады и лично моей. Положение было вообще очень неопределенное и в нем было трудно ориентироваться. Развал фронта и наступление немцев тогда еще очень сильных, в связи с внутренним тяжелым положением революционной России создавала впечатление конца социальной революции. В перспективе, следовательно, был выбор между буржуазной Германией и буржузаной Россией. Несмотря на то, что среди членов Совета далеко не все раньше ориентировались на запад, теперь весь его состав, одни (БСГ) из национальных, другие (ср) из политических соображений переходили на германскую ориентацию. Однако, революционная Россия поддержала надвигавшуюся опасность, а белорусские националисты и весь Совет вообще оказался в лагере контрреволюции. Политика БСГ' и моя в том числе, повернула вправо, и партия постепенно начала двигаться к своему полному банкротству и развалу.

Совет съезда собравшись во время эвакуации города, признал, что момент является наиболее подходящим для того, чтобы взять власть в свои руки. Хотя надвигались немецкие войска, но предполагалось, что немцы будут считаться с Белорусской Республикой, как со свершившимся фактом, и дадут ей ту или иную возможность существования. Был избран состав правительства—народный Секретариат во главе с Воронкой. Избран был и я в качестве нар. секретаря просвящения. От избрания этого казалось неудобным отказываться, тем более, что фактически руководил всей белорусской культурно-просвятительной работой в Минске. Политическую работу Секретариата и Совета вел в то время Воронко и группа близких к нему людей (Езовитов и др.). Власть Секретариата в Минске продолжалась всего около 5 дней, до вступления в город немцев, которые на другой же день выселили его из помещения, забрали кассу, показывая, что они вообще ни с какими претендентами на власть считаться не намерены и что, начиная от Минска, они будут строить великую Россию. Таковы, по крайней мере, были взгляды немецкого командования, занявшего Минск. Но были взгляды и более благоприятные для белоруссов. И потому, когда Совет начал все-же собираться в частных помещениях и развертывать свою работу, ему особых препятствий не ставили.

Работа Совета началась с общеполитической декларации, изложенной во 2-й уставной грамоте. Декларация эта носила социалистической характер, пересказывала программу Громады и произвела в городе благоприятное впечатление, несмотря на то, что её уже формально объявлялось о существовании Белорусской Народной Республики и о переименовании Совета сьезда в Раду Республики. На почве этой платформы в состав Рады вошли русские эсеры и меньшевики, в руках которых тогда еще были земские и городские самоуправления, Бунд и др. еврейские социалистические партии. Вхождение их представителей в состав Рады и Секретариата значительно подняло авторитет этих учреждений в городе и в глазах немецкого командования. Однако, такое положение продолжалось неделю. В конце марта приехала из Вильно делегация от тамошней Белорусской Рады во главе с Луцкевичем и др. Они проинформировали многих работников БСГ о положении дел в Вильне, о различных планах немецких политиканов относительно Литвы и зап. Белорусии и выставили категорическое требование об объявлении независимости, чтобы искать возможность самостоятельно выступить на международной арене и вообще выдвинуть лозунг, указывающий конечные цели национального движения. В среде белоруских членов Рады в этом отношении разногласий не было. Но переговоры с представителями земств, городов, русскими и еврейскими социалистами не дали результатов, они были категорически против объявления независимости, вернее, против отделения от России. Тем не менее 25. 03. 1918 белорусскими большинством в знак протеста заявляли о своем выходе из Рады.

(Працяг будзе)



# Роднае слова

## Із агню ды ў полымя

Міхась Кавыль

*(Быліца шаснаццатая)*

Калі Сечкін зматаўся, Клаша абазвалася: «А што ты надумаўся ўзрываць яшчэ, таварыш каманьдзір?»Гэтыя два апошнія словы яна выдзеліла як-бы насьмешлівай інтанацыяй, нібы паўтараючы словы Сечкіна: «Мала мы зрабілі, мала».

Новік не адрэагаваў на падкавырку Клашы, а прыцягнуў да сябе, сеў на пянёк і пасадзіў яе сабе на калені.

Пасьля «любошчаў», Клаша атрымала з пацалункам просьбу Аляксея: «Скажы ад майго імя хлопцам, каб пазьбіралі ўсе газэты і няхай Лявончык аднясе іх на аэрадром Сечкіну, каб той распаліў імі касьцёр, калі дачакаецца самалёта. За адно няхай Сечкін прыйшле сюды Васіля.Ты, Клашуня, пайдзеш з Васілём у пасёлак Ракаў, у крайнім садзе разапнеш антэну і перадасі весткі пра правалы Менскіх падпольшчыкаў. Весткі возьмеш із гэтага «Минского большевика». Прозьвішчы павешаных і рассталяных ня пералічай, а дай толькі агульную колькасьць зьнішчаных. І спытай, думаюць яны прыслаць нам міны ці забыліся пра нас. Пытаньні і запярэчаньні ёсьць?»

—Няма, таварыш каманьдзір... Ага, адно пытаньне: «А што сам будзеш рабіць?»

—Хоць гэта ваенны сакрэт, але табе прызнаюся: пайду да бацькоў, адведаю, як яны жывуць, загляну да Віктара Лабача, можа, ён штосьці ведае пра Лізу.

— А якое ты даў заданьне Лізе?

—Забіць аднаго ворага народу,—зманіў Новік, не маргнуўшы вокам.

Клаша падумала: «Ці не за Язэпа ён узяўся»,але ўстрымалася пытацца і пайшла выконваць «просьбу» начальніка.

Ноччу Клаша і Васіль прабіраліся сьцежкамі-дарожкамі да пасёлку Ракаў. Селі пад кустом перадахнуць, Клаша пацікавілася:

—Ты, Васіль, хіба, не беларус?

—Не, таварыш Пятрова, я чыстакроўны маскаль.

—Чыстакроўны фашыст?

—Ніколі ім ня быў.

—А што цябе прымусіла разам зь беларускімі калябарантамі халуйнічаць немцам?

Слова халуйнічаць задзела Васіля, але «хвост задзіраць» не асьмельваўся, бо ведаў, дзе знаходзіцца, з кім мае справу. Таму пастараўся коратка вытлумачыць, як яго занесла на фронт, а там у «мяшок», а тады ў «шталяг», дзе яго чакала «общая могила», а таму ён паслухаў «лучшего друга» Язэпа Лабача і згадзіўся стаць «халуём» з тым разьлікам, каб вырвацца із пекла і далучыцца да партызанаў.

—Позна надумаўся, таварыш Васіль. Але няхай. Скажы,ты даўно бачыўся з Лабачом?

—А ўжо амаль два месяцы таму. А што

ён Вас цікавіць?

—Ды гэта-ж маё першае каханьне.

—А я так і падумаў пра гэта, калі Вас і ўбачыў. Язэп расказва ў мне на фроньце пра сваю вучаніцу Клашу, дачку раённага пракурора. Дарэчы, прабачце мне, таварыш Пятрова.

—Называй мяне Клашай. І ня «Выкай».

—Прабач мне, Клаша, але я мушу выканаць просьбу Язэпа: «Калі застанешся, Вася, жывы і вернешся дадому, пастарайся наведайся ў мястэчка Пакрова-Марфінск на Тамбоўшчыне, пашукай маці Клашы, Ксе ню Дзянісаўну, і раскажы ёй...

Васіль замяўся, баяўся аглушыць Клашу, як доўбней па галаве, страшнай весткай. Клаша скаланулася ад пачутага, бо здагадалася, што Васіль мусіў сказаць матцы, але ёй хацелася пачуць нешта добрае, і яна дрыжачымі вуснамі спытала: «Што ты мусіў расказаць маёй маме?» Васіль маўчаў, абдумоўваў, як лепей сказаць, каб не агаломшыць дзяўчыну, але нічога ня прыдумаў, бо смерць ёсьць смерць, яна ня мае псэўдонімаў. Пачуўшы, нарэшце, пра сьмерць бацькі, Клаша доўга плакала. Пра тое, што Пятру Міхайлавічу, бацьку Клашы, асклепак снарада трапіў у жывот, вырваў кішкі, пра тое, як ён, стоячы на каленях, трымаў у руках кішкі і клікаў: «Сястра, сястра...» ,— Васіль не сказаў. Хапіла Клашы і таго, што пачула. Яна ізноў паклялася помсьціць душагубам, уціраючы рукавом блузкі сьлёзы, сказала: «Пайшлі».

Каля краняй хаты ў садку высілася стромкая ліпа. Пасёлак моцна спаў, акутаны густым туманам. У другім канцы пасёлку азваўся сабака.

Васіль узабраўся на ліпу, Клаша падала яму антэну, пачакала, пакуль ён яе разапне, сказала Васілю ня злазіць, чакаць, пакуль яна перадасьць весткі. Васілю давялося даўгавата адсядзець на галіне, бо ў Клашы штосьці ня ладзілася: ніхто не адзываўся на пазыўныя. Нарэшце, Масква азвалася. Клаша паведаміла пра правалы Менскага падпольля. Просьбу пра «неадкладную дастаўку мінаў».

У лягер вярталіся так, як і на заданьне: Васіль наперадзе з рацыяй на плячах, Клаша ззаду. Ішлі моўкна. Кожны думаў сваю думу, Клаша думала пра бацьку, брата Міхася, пра нябожчыцу маці. Цяжка ўздыхала Клаша, Васіль думаў пра сказанае Клашай: «Позна надумаўся. Чаму позна? Змагацца з ворагам ніколі ня позна. Але ўсё-ж спытаў у Клашы: «Таварыш Пятрова. Чаму ты сказала, што позна надумаўся ісьці ў партызаны?

Клаша не хацела палохаць Васіля, ра-шыла пакуль што пачакаць, даведацца ў Аляксея, што ён думае рабіць, а таму адказала: «Пра гэта пагаварым калі-небудзь другім разам. Ня праймайся вельмі. Усё будзе добра».

—І я так думаю. І табе, таварыш Клаша, хутка будзе добра: вы пабачыцеся зь Язэпам.

—Адкуль ты ўзяў такую навіну?

—Я па загаду таварыша начальніка напісаў сягоньня пісьмо Язэпу Лабачу,у якім клікаў яго ў лес, да нас. *«Калі будзеш і далей адбрыквацца рознымі прычынамі, далей будзеш халуйнічаць перад фашыстамі, —напісаў я Язэпу,—будзе табе «сякім башка».*

Клаша занепакоілася. Яна ведала, што ёсьць загад Сталіна: усіх, хто прыбяжыць у лес у 1943 годзе, расстрэльваць.

«Васіля,—развважала Клаша, —Аляксей не расстраляў яшчэ, бо хоча заманіць сюды Язэпа, а тады загадае Васілю забіць Язэпа, а за Язэпам атрымае кулю ў патыліцу і Васіль.

—Вася, амаль выгукнула Клаша, а што ты будзеш рабіць, калі Язэп паслухае цябе

і прыйдзе сюды,а Аляксей загадае табе расстраляць Язэпа?

Васіль ня ведаў, што адказаць, маўчаў аж пакуль ня прыйшло пытаньне:

—А за што Язэпа трэба будзе расстрэльваць? Я не разумею, Клаша.

—А я разумею (Яна мела на ўвазе задуму Новіка пазбавіцца свайго саперніка) і таварыш Сталін «разумее». Крыху зразумеў цяпер і Васіль:

—Дык і мяне тады расстраляюць?

—Так, даражэнькі зямляк. Я цяпер зразумела задуму начальніка Новіка. Калі Язэп будзе «выкручвацца», Новік пашле цябе ў Менск для «сякім башка».

—Я ня думаю, што да гэтага дойдзе.

—Дойдзе, Вася, дойдзе. І каб ты ня стаў забойцам свайго сябры, а майго першага і яшчэ не астыўшага каханьня, ведай, што і ты будзеш расстрэляны пасьля забойства Язэпа.

—Дык што я маю рабіць? Уцякаць назад да немцаў? Там мяне таксама чакае сьмерць.

—Уцякаць пакуль што ня трэба. Чакай, пакуль ад Язэпа прыйдзе адказ. Тады, калі ізноў ня згодзіцца «сыйсьці зь няправільнай дарогі»,цябе адправяць зрабіць«сякім баш ка».Ты гэтага не зробіш. Праўду я кажу?

—Не зраблю.

—Тады скажаш Язэпу, што я кахаю яго і прашу, каб ён заапякаваўся табою. А яшчэ скажы, што я думаю пабачыцца зь ім.

—Дзякую, даражэнькая Клаша. Ты пачакай тут, а я зьбегаю ў пасёлак, растараюся нечага перакусіць, бо ў цябе, думаю, кішкі марш іграюць.

—Хаця ў пасёлку, здаецца ні немцаў, ні паліцаяў няма, але на ўсякі выпадак вазьмі мой наганчык.

Васіль узяў наганык засунуў у кішэню, зьняў зь плячэй рацыю, паклаў каля бярэзіны і пашыбаваў туды, адкуль толькі што яны прыйшлі.

—Ня баўся доўга.—сказала Клаша.

Клаша прысела каля бярэзіны. Падумала, што ня трэба было даваць Васілю наганчык, бо надумаецца ўцячы. А што тады скажу Аляксею?Ат, дурніца.Нікуды Васіль ня дзенецца. А калі пабяжыць, скажу, што наганчык, уцякаючы ад Васіля, згубіла. Сядзела Клаша, прыслухоўвалася да шуму пушчы, задумалася пра свой партызанскі лёс. Яна заглыбілася ўсвае невясёлыя думы, што не заўважыла, як зьявіўся Васіль. Ён прынёс бохан чорнага хлеба і досыць вялікую каўбасу.

—Нейкая добрая бабка ў крайняй хаце,—казаў Васіль,—пашкадавала «беднага хлопца» і раскашэлілася. Стаўшы на калені перад Клашай, Васіль разламаў хлеб і каўбасу на роўныя часткі. Елі яны, не саромячыся, ажно давіліся, бо ня часта ім траплялася такая добрая бабка. Апошнім часам Віктар Лабач штосьці не падкідаў партызанам нічога, а Сечкін таксама мала што прывозіў ад «раскулачаных» калгасьнікаў.

Васіль, аддаючы Клашы наганчык, спытаў:

—А што мы скажам начальніку ў апраўданьне доўгага выкананьня заданьня?

—Не бядуй, Вася. Начальнік сёньня я. Так што пайшлі хутчэй у лягер,— скамандавала Клаша.

(Працяг будзе)



# Жывы подых гісторыі

## *На сцэне Купалаўскага тэатру «Звон — не малітва» І.Чыгрынава*

Ванкарэм Нікіфаровіч

На сцэне —створаная фантазіяй мастака Барыса Герлавана агромністая, я-б сказаў, графічная карціна,хутчэй лінаграфюра, сабраная з натуральных рэчаў: авечыя скуры, вырабы зь цяжкога дрэва, сапраўдныя паганскія ідалы і праніклівы позірк вачэй Боскай маці, што ўнізмаецца спачатку на задніку, а потым узносіцца ўсё вышэй і найвышэй у фінале гэтага відовішча. Дэкарацыя адна й тая-ж, і толькі невялічкія, амаль няўлоўныя яе зьмены і перамены сьвятла пераносяць гледача з покояў замкуна яго панадворак, з паганскага капішча — у лес, з Заслаўя ў стольны Кіеў.

У цэнтры спэктакля Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Звон—не малітва» па гістарычнай драме Івана Чыгрынава, княгіня Рагнеда. Тэатр прывабіла магчымасьць ня проста зазірнуць у сівую гісторыю, а прымусіць гледача хоць крыху задумацца над яе вурокамі.

Малады рэжысёр-пастаноўшчык Генадзь Давыдзька пад кіраўніцтвам вопытнага Валерыя Раеўскага разам з акцёрамі-выканаўцамі імкнуліся так паставіць гэты спэктакль, каб як мага бліжэй наблізіць яго персанажаў, да нас, прымусіць нас адчуць і зразумець іх натуральныя чалавечыя турботы, хваляваньні, пакуты, трывогі іх боль. А час тады быў дужа складаны. Да Рагнеды прыязджае ад яе мужа, кіеўскга князя Уладзіміра хрысьціянскі прэсьвітар Апанасій, каб распачаць хрышчэньне народу на гэтых землях. Княгіня ўстрывожана: як паставіцца да гэтага, як прымяць патрабаваньне Уладзіміра, які ўжо раней у Полацку забіў яе бацьку Рагвалода і прымусіў яе пайсьці да яго ў жонкі? Драматург і абедзьве выканаўцы ролі Рагнеды—акрысы Лілія Давідовіч і Ала Ельяшэвіч найперш падкрэсьліваюць выключныя інтэлектуальныя здольнасьці гераіні, яе прыродную мудрасьць асобу, якую ні на хвіліну не пакідае думка пра свой народ, пра яго месца сярод іншых у сьвеце. Вядома, новая вера—хрысьціянства—зьява прагрэсыўная, гэта добра разумее Рагнеда, але яна ніяк ня хоча, каб людзі зусім забыліся на ўсе тыя лепшыя звычаі, што былі ўласьцівы паганству. І самае галоўнае, каб толькі не пралілася кроў!

Дзьве асноўныя трывогі непакояць на працягу спэктакля сэрца Рагнеды. Першая: паганскі явун патрабуе прынесьці ў ахвяру Анею, дзяўчыну, у якую закаханы Ізяслаў, сын Рагнеды і князя Уладзіміра. Другая —Уладзімір загадвае прыслаць Ізяслава ў Кіеў, гэта значыць, адбірае ад маці ўлюблёнага сына, якога яна выхоўвала й у якога—часьцінка і яе, Рагнедавай душы.

Рагнеда-Давідовіч—эмацыянальная, экспрэсыўная, неспакойная, ёй цяжка стрымліваць напал сваіх пачуцьцяў. Яна перш-наперш жанчына, створаная Богам, каб кахаць, нараджаць дзяцей, узвышаць душэўна таго, хто побач. І ў той-жа час мы добра адчуваем яе моцны інтэлект, шырыню яе поглядаў. Калі актрыса Л.Давідовіч вядзе роспавяд-маналог сваёй гераіні пра тое, як



*Ізяслаў —Ігар Дзянісаў*
*Рагнеда —Лілія Давідовіч*

гэтаму «не даецца » і адбываецца чароўны акт высокага мастацтва. А мы, гледачы, думаем: «Няўжо і сёньня словы Рагнеды гучаць прароча»?

Другая выканаўца гэтай ролі, актрыса Ала Ельяшэвіч, нібы сьціснуўшы сябе і ўзяўшы у кулак усе свае пачуцьці і хваляваньні, перадае трагедыю Рагнеды мужна, эмацыяльнальна, стрымана, выдаючы звонку толькі неспакойную пульсацыю напружанай думкі гераіні. Але гледачы добра адчуваюць і разумеюць, што адбываецца ў сэрцы і душы гэтай неардынарнай жанчыны, якая фактычна стаяла ля вытока ў нашай беларускай дзяржаўнасьці, і вылучалася якраз маштабным, глабальным мысленьнем, разуменьнем працэсаў у сусьветных, у станаўленьня нацыі, што толькі нараджалася. А Ельяшэвіч падрэсьлівае, выключныя інтэлектуальныя здольнасьці Рагнеды.

маленькі Ізяслаў у Полацку абараніў яе ад гневу Уладзіміра й яго пагрозы смерці, гледачу дакладна перадаецца незвычайне хваляваньне і ўзрушанасьць Рагнеды, неспакой за сына і яго лёс, і гэты роздум —неспакой пра будучае сына даволі тонка спалучаецца з балючай трывогай гераіні за лёс свайго народу. «Ува што верыць? У заўтра? — зь вялікай сілай эмацыянальнага напружаньня пытаецца Рагнеда-Давідовіч і сама-жа дае адказ.—Ці будзе яно ў нас? Ззаду—цемра, наперадзе цемра, а вакол такая туга, разлад ва ўсім. Вось і сына забіраюць у мяне».

Актрыса ў гэтыя хвіліны як мага імкнецца стрымаць сваю роспач, сваё ўзрушэньне, не паказаць жаноцкую слабасьць ,але гэта ёй яніяк не даецца, і менавіта, дзякуючы



*Рагнеда —Ала Ельяшэвіч*



*Злотнік —Уладзімір Рагаўцоў,*
*Анея —Ала Паплаўская*

Думкі яе лятуць далёка, яна бачыць усю зямлю, дзе жылі продкі беларусаў, яе роздум пра тое, як жыць надалей, набывае глабальны, агульначалавечы маштаб.

Але калі і Л. Давідовіч і А.Ельяшэвіч у кульмінацыйны момант разьвіцьця свайго пэрсанажу ўсьвядомілі, што сына ня вернеш, яны ўжо не могуць стрымаць сваіх пачуцьцяў — з сэрца вырываецца ўскрык, енк. І адначасова —усьведамленьне пэўнай сваёй маральнай перамогі: вялікі князь Уладзімір паслаў Ізяслава княжыць менавіта ў Полацак, на Радзіму, на зямлю ягонага дзеда. І мы з гонарам усьведамляем, што, напэўна, менавіта Ізяслаў садзейнічаў тысячу гадоў таму ўтварэньню першай беларускай хрысьціянскай япархіі.

Дзьве актрысы ў купалаўскім спэктаклі ня проста іграюць адну ролю па чарзе, яны дапамагаюць больш шматфарбна і пераканаўча раскрыць веліч асобы такога пэрсанажу, як княгіня Рагнеда. Я-б назваў гэта стварэньнем вобраза пражанчыны нашага беларускага нацыянальнага характару.

Жывы подых гісторыі. Таму і ўспрымае глядач боль і пакуты тых, хто жыў тысячу гадоў таму, як вельмі блізкія й адчувальныя, як тыя, што могуць ўсхваляваць і тваё сэрца, і сэрца суседа, і кожнага, хто жыве сёньня на гэтай зямлі. Купалаўцы стараліся беражліва захаваць лепшыя якасьці гістарычнай драмы І. Чыгрынава «Звон—не малітва», дзе дзеяньне і канфлікт не ў вонкавым, а ў глыбінным выяўленьні, дзе кожнае імгненьне ня проста пражытая хвіліна, а часьцінка вечнасьці, поўная вялікага сэнсу.



*Ізяслаў—Ігар Дзянісаў*
*Анея —Ала Паплаўская*

# Сэрцам і думкай

Аўген Гучок

Беларусь мая—хлеба бохан—
Рэж яе папалам ці як—
І ня ўчуюць ні крыкаў, ні вохаў
Ні сама, ні маскаль, ні паляк.

Пішы на стол, пішы ў стол.
Пішы і мала, й многа.
Але сярод тваіх радкоў
Хай будзе хоць адзін для Бога.

Няма ніякіх тут сакрэтаў
Сярод усіх часоў, гадзін,
Калі адзін я —я з Сусьветам,
Калі я з вамі — я адзін.

Скарына ведаў, што нашчадкі
Да кніг яго не дакрануцца;
Але рабіў іх без аглядкі,
Каб у сэрцы Бога адгукнуцца.

Мангола-татарская сіла
Не канула ў магілу,
Яна ў маскаля ўвайшла
І далей па сьвеце пайшла.

Бяру звычайна жменю слоў,
Слоў, бы паветра, простых
І пачынаю прасяваць,
Як прасяваюць проса.

А сетку ў рэшаце маім,
У адрозьненьне ад іншых,
Складаюць думкі і пачуцьці,
Што высьпелі ў цішы.

І вось, калі перастрасу
Я жменю тую слоў,
Глядзіш — і ў рэшаце на дне
Верш сам сабой —гатоў.

# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

## Мае ўспаміны

Анеля Катковіч

Мяне зь Верай судзілі завочна. Ня прысутнічалі мы на сваім судзе, не бараніў нас ніякі адвакат, не маглі сказаць ані воднага слова ў сваёй абароне. Ды якая была тады розьніца, на колькі, 10 ці 25 гадоў, засудзілі? Пакуль жыў Сталін, з палітычных вязьняў ніхто з такога лягера дамоў не варочаўся. Большасьць памірала, не адбыўшы кары, а тыя, хто ператрываў, ішоў на «вольное поселение». Іх выпускалі зь лягера, не дазваляючы аддаляцца далей як 100-200 км. Пачынай жыцьцё як хочаш. Выходзячы зь лягеру, кожны быў інвалідам, няздольным да працы. А адсядзеўшы тэрмін, трэба было шукаць сродкаў да жыцьця. Як-жа дрыжэлі вязьні, думаючы аб прыбліжэньні заканчэньня кары. У лягеры мелі яны месца дзе прылегчы і міску аўсянкі, а там, па-за лягерам, што каго чакала? Так, выпушчаная на волю адна полька Горссэк Гэнрыка з Львова родам, якая была зусім няздольная да працы, села пад плотам і не пайшла нікуды. Убачыўшы яе, нерухомую, нехта з вольных заапекаваўся ёй. Удалося нават адправіць яе ў Польшчу, бо тады ўжо пазвалялі туды ехаць. На Бацькаўшчыне яна хутка памерла.

Забралі мяне этапам разам зь Верай і Славікам. Не далі для малога ані чыстых полак, ані харчоў адпаведных. Не дазволілі паведаміць родных аб нашым лёсе. Ніхто да нас ніколі не прыехаў, ніхто не перадаў ніякай перадачы, бо ніхто нічога пра нас ня ведаў.

Завялі нас у цягінік з вагонамі, прадназначынымі для перавозу вязьняў. Народу было многа. Веры загадалі сесьці з сынам на верхняй паліцы, на якой фактычна сядзець ня можна было, бо вельмі мала месца і галава ў столь упіралася. Трэба было ўвесь час ляжаць. І дзіця мусіла ляжаць. Славік плакаў, бо было вельмі горача, а ён ляжаў мокры, ня мела Вера, у што яго перавіць. Карміла Вера яго грудзьдзю, але гэта нязручна было рабіць ўсьцяж у ляжачай позе. У дарозе давалі сухія сухары і ваду. На вярху задыхаліся ды ў ва ўсім вагоне было душна. А Славік плакаў і плакаў, хацеў на паветра.

У такіх умовах даехалі да Масквы. Там нас завязьлі ў перасылачную турму на Бутырках, мяне зь Верай разлучылі, але на гарачыя просьбы Веры пасьля дня ці двух нас злучылі. Пакуль я была адна, мела магчымасьць убачыць,у якіх жахлівых умовах знаходзіліся праз цэлы дзень вязьні ў пачакальні. Шчасьлівай пачулася я, калі мяне прывялі да Веры. Яна сядзела ў камеры, вызначанай для матак з малымі дзяцьмі. Тут магла я забаўляцца з Славікам, які ў тым часе быў вельмі пацешным хлопчыкам. Не абмінуў яго ўвагай ніводны надзірацель, які правераў камеру. Падыйшоўшы да Славіка, мусіў абавязкова ўзяць яго на рукі. Меў хлопчык белыя валаскі, блакітныя вялікія вочы і рэгулярныя рысы твару.Акрамя таго,што нарадзіўся ў турме,і адразу пась-



*Працяг. Пачатак у №2(32), 1994*

ля нараджэньня выглядаў, як малы старычок, бо ўвесь быў паморшчаны, але дзякуючы,што Вера мела многа малака,ён прыйшоў да сябе. Маючы сем месяцаў, быў вялікім, ружовенькім, прыгожым хлопчыкам. (Родзячы яго Вера, тры дні мучалася, муселі рабіць царскі разрэз, і лекары ня мелі надзеі на яе жыцьцё).

Былі мы ў Маскве цэлы тыдзень разам. Марылі аб тым, каб паслалі нас у адно і тое самае месца. Разам мы даехалі з Масквы ў Горкі. Пасьля прыезду туды, пагналі нас у лазьню, забіраючы рэчы ў пражарку. У гэтай пражарцы зусім спалілі Верынае каракулевае футра. Але ня гэта было для нас найважнейшае. Многа нэрваў каштавала нам лазьня, у якую мусілі ісьці разам са Славікам.Лазьня была так перапоўнена, што не было дзе прытуліцца, а мы мелі з сабою дзіця. Паставілі нас пад халодны душ. Было поўна дыму і пары. Славік увесь час плакаў, а мы разам зь ім, бо прадчувалі нешта кепскае. Пасьля лазьні нас разлучылі. Веру з сынам павялі ў адну турму, а мяне ў другую. Веру яшчэ раз павялі са Славікам у лазьню, аб гэтым яна мне расказывала, калі мы спаткаліся ў Будславе. Больш мы не ўбачыліся зь ёй. Яе накіравалі ў Казахстан, а мяне ў Іркуцкую вобласьць.Некалькі дзён сядзела я яшчэ ў Горкім. Пасьля лазьні была моцна прастуджаная. Мела вялікі цяжар на грудзях, ня мела чым дыхаць. Быў закладзены нос і горла. Павысілася тэмпература.У камеры было столькі народу, што нельга павярнуцца. Да таго-ж ад Менска не пераставала балець галава.

Пакуль даехала я ў Іркуцкую вобласьць затрымлівалася ў многіх гарадах і перасылачных турмах. Усюды поўна было народу. Ехалі жанчыны і мужчыны, палітычныя вязьні і крымінальныя, людзі навукі і злодзеі. Памешаныя былі ўсе разам. На нарах не хапала месца. Ехалі цягнікoм таварным цэлымі месяцамі, дзьверы былі замкнутыя. Адкрываліся, калі прыносілі есьці. У вагоне былі толькі жанчыны. Са мною ехала многа масквічак, жонак вялікіхураднікаў. Былі гэта багата апранутыя жанчыны і пачувалі сябе лепшымі, чым іншыя. Яны пазанімалі лепшыя месцы на нарах і зручна спалі ў той час, як многія ноч і дзень сядзелі скорчыўшыся на мокрай падлозе вагона. Сама я мела месца да спаньня сярод грузінак. Гледзячы, як мучацца іншыя на зямлі, я ноччу ўставала і ўступала сваё месца каторай-небудзь жанчыне з падлогі. Гэтым нажыла ворагаў сярод грузінак, бо, устаючы, часта іх разбуджвала. Між намі было найбольш украінак. Астатнія розных нацыянальнасьцей. Мела я з сабою пару прыгожых рэчаў,асабліва быў прыгожы шляфрок японскі, які адразу падгледзілі блатныя і паставілі мяне абакрасьці.

У Маскве далі мне целагрэйку, бо з сабою мела я толькі летнія рэчы. І верх, і падшыўка целагрэйкі былі такія брудныя, што ня можна было пазнаць, які яна мела калісьць коляр. На адой з перасылак, памяняла я свой новы, шыты ў Бэрліне касьцюм на паліто,бо было ўжо холадна.Хусткі цёплай у мяне не было. Калі мяне арыштавалі ў Варшаве, я пасьпела ўзяць з шафу п. Тірбах світар, штаны, ручнік і закапанскія капцы, пакінула распіску на гэтыя рэчы з тым, каб яна ў Бэрліне ўзяла нешта для сябе з маіх пакінутых там рэчаў. Прапала я бы зусім, каб гэтага ня мела.

Калі мы прыехалі ў Іркуцкую вобласьць, быў такі вялікі мароз, што адаразу некалькі жанчын адмарозілі сабе насы.

Накіравалі мяне ў Тайшэцкія лягеры, Іркуцкай вобласьці,недалёка да возеру Байкал.Прывялі нас у барак, перапоўнены вязьнямі. Пасярэдзіне яго стаяла печка. Далі

месца на нарах, на якіх ляжаў сяньнік, набіты саломай, і марны коц. Падушкі ніякай не было і ня бачыла я яе аж да вызваленьня. Было амаль цёмна. Барак асьвятляла маленькая лямпа-капцілка. Дрыжала я ад хо-ладу і заснуць не магла. За парадкам у ба-раку глядзела днявальная. Яна печку па-ліла, мыла падлогу.На нач баракі замыкалі. Увесь лягер быў абгарожаны высокім пло-там з нацягнутым зьверху дротам,а ў кутах стаялі вышкі для вартаўнікоў.

На другі дзень далі нам вопратку: брудные, палатаныя старыя бушлаты, ватныя таксама старыя штаны, шапкі на галаву і валенкі —кожны розны. Адзін быў высокі і шэры, другі цёмны і кароткі. Адзін замалы, а другі завялікі. Бялізну казённую таксама далі і ручнік. Вывелі нас перад баракам і пастроілі ў пяцёркі. Новая вопратка так нас зьмяніла, што нікога пазнаць ня было можна. Раптам чую, нейкая жанчына кліча мяне па імені. Пытаюся, як вы мяне пазналі, а яна адказвае —па пояску. Бушлат свой перавязлала я паяском ад шляфрока.

Раней чым мы выйшлі на працу, пасьнедалі ў лягернай сталоўцы: халоднай задымленай, цёмнай, перапоўненай парай. Далі нам кавалачак хлеба і суп аўсяны. Такі суп елі мы тры разы дзённа. Як-жа надакучыла мне гэтая аўсянка!

Вывелі нас на дарогу адкідаць сьнег. Мароз быў такі вялікі, што сьлёзы замерзалі, мерз нос. Стараліся нос завязаць хустачкай, але яна роабілася жорсткая і замерзала ад дыханьня.

У бараках пераважала ўкраінская мова. Мужчын у нашым лягеры не было. Усе мужчынскія працы выконвалі жанчыны.

Далі мне першую катэгорую, г.зн. залічылі да найсільнейшых, і паслалі на лесапавал. Трапіла я на калону 9, якая ня мела вады. Прывозілі ваду з ракі, адлеглай 12 км ад лягера. Спэцыяльныя брыгады дзень і ноч разбівалі лёд, які прывозілі ў лягер, тапілі і на такой вадзе варылі стравы, бралі ў лазьню, мылі бялізну, і г.д. Можна сабе ўявіць, як цяжка было здабыць кубачак вады, калі хацелася піць.Тапілі і пілі сьнег. Вельмі доўгі час я ня мела лыжкі і суп піла зь міскі, а калі была якая каша ці бульба, то ела скарынкай ад хлеба.

Пачала я хадзіць у лес звальваць вялізарныя сосны, пілаваць іх і ладаваць на машыны. Выходзілі на працу пяцёркамі, акружаныя вартаўнікамі і сабакамі. У лесе прызначалі межы, якія ня мелі мы права пераступіць. Аднойчы сказаў вартаўнік аднои з брыгадзіраў пайсьці і прынесьці нейкае дрэва, што ляжала на вызначанай мяжой. Калі яна падыйшла да гэтай мяжы, ён выстраліў і забіў яе. Пасьля сказаў, што яна ўцякала. Куды хто мог уцячы марозам у тайзе, перапоўненай звярамі? Здаралася, што хто-небудь спрабаваў уцячы. Заразжа такога лавілі і расстрэльвалі. Нам часта чыталі прыказы аб расстрэле за пабег.

Брыгадзірамі нашымі былі крыміналісты-забойцы або зладзейкі. Ня любілі яны палітычных вязьняў і мелі тут аказію над імі пазьдзекавацца.

Мне было асабліва цяжка,бо я была хворая, а сама ня ведала якую хваробу маю. У мяне вельмі часта балела галава і наогул, я чулася слаба. Трэба-ж было дараўняць фізычна моцным украінкам ці латышкам, якія прызвычаіліся з дзьяцінства выконваць мужчынскія працы. Як аказалася некалькі гадоў пазьней, я была хворая гіпертаніяй—мела вельмі высокі ціск крыві. Нікому не прыйшло ў галаву зьмерыць мне ціск крыві, а я сама пра такую хваробу і ня чула. Маіх скаргаў на боль галавы ніхто ня слухаў. Ня выканаўшы нормы, я даставала менш чым

іншыя хлеба ці цукру. Брыгадзіры ўсьцяж на мяне крычалі. Бывала, ледзь дабяруся да нар сваіх пасьля работы, толькі выцягнуся на сеньніку, каб адпачыць,як тут прылятае брыгадзір і загадвае ісьці на разгрузку вагонаў. Часта паднімалі нас да гэтай работы ноччу. Трэба мяхі насіць, якія я не магла скрануць з месца. Ізноў на мяне крычэлі і страшылі карцарам. Схудала я, высахла, зрабілася непадобная да сябе. Аднага дня распух мне нос, зрабіўся чырвоны і ўсе сказалі, што гэта рожа. Вось і пайшла я ў санчасьць прасіць звальненьня з працы. Прыходжу і пытаюся: «Ці я магу ісьці на працу марозам з такім носам?» А мне медсястра латышка Петэрсон адкзавае: «Вы же носом работать не будете». Тэмпэратура таксама была ў мяне павышаная. Але ўсё роўна я пайшла працаваць. Мела я пазьней нарыў у вуху, павышаную тэмпэратуру і сільную галаўную боль. Усю ноч не спала ад болю, а раніцою пайшла прасіць звальненьня. Не далі. Сколькі разоў мела я запаленьне вуха, цякло зь яго, але ў лягеры не было ларынголага і з работы не звальнялі. Толькі медсястра, навіўшы на палачку ваты пхала яе ў вуха і так прачышчала. Пасьля такога «лячэньня» я стала вельмі кепска чуць.Сказала я сабе, што паміраць буду, а ў санчасьць больш не пайду, і больш ніколі ня буду прасіць звальненьня.

Працягвала я далей валіць лес, карчаваць яго і адкідваць сьнег. Працавалі мы без адпачынку, без ніякіх сьвят. Працавалі і на Каляды,і на Вялікдзень.За невыкананьне нормы памяншалі порцыю хлеба. Мушу тут сказаць, што і пры нармальнай порцыі адчувала заўсёды голад.

Аднойчы мне зусім не далі хлеба. Стаю я каля печкі і ўздыхаю. Божа, божа, да чаго я дайшла, што і хлеба мне не хапае. Калі я пачала маліцца, гляджу, падыходзіць да мяне адна руская жанчына зь Ленінграда, Надзея Іванаўна Цімафеева і дае сваю пайку хлеба, кажучы: «Я слышала, что вы на штрафном, так возмите мою пайку». Не хацела я браць, але яна ўпіхнула сілай. Добрая была жанчына. У часе блякады Ленінграда страціла яна адзінага сына. Пасылак яна не атрымлівала.

У лягеры я вельмі многа малілася. Старалася дружыць зь людзьмі, якія глыбока верылі ў Бога.

Падтрымлівала мяне на духу Зофія Эйсмонт, масквічка, якая была паўполька, паўфранцужанка. Сядзеля яна за рэлігійныя перакананьні. Па прафэсыіі была піяністка. Жанчына вельмі інтэлігентная, мудрая, начытаная. Умела вельмі прыгожа гаварыць. І сама яна была прыгожая, вельмі зграбная, высокая. Мела вялікія блакітныя вочы, густыя чорныя расьніцы, рэгулярныя рысы твару и чорныя валасы. Сядзела яна другі тэрмін. Як толькі мне станавілася цяжка на сэрцы, я бегла да яе і знаходзіла супакой. Такой-жа добрай была і яе прыяцелька Кузьняцова. Яна была зь Ленінграда, і таксама сядзела за веру.

На дзевятай калоне я не была доўга. Прыехала лекарская камісія і залічыла мяне да кволых. Перавялі тады мяне ў другі лягер на «адпачынак». Адпачывалі мы, ходзячы два разы да абеду ў лес пад дровы і два разы пасьля абеду. Ішлі мы ў адну старану 3 км. У лесе пілавалі дровы, бралі калодкі на плечы і зь імі вярталіся ў лягер. Дзённа праходзілі 24 км. Я хадзіла ў пары з старэйшай украінкай, настаўніцай рускай літаратуры. Цэлыя вершаваныя творы яна ведала на памяць. Па дарозе яна іх мне дэклямавала і рабіла даклады зь літаратуры. Ад яе я многае навучылася і пачула цікавага. Яна была таксама вельмі прыгожая. Паходзіла зь Кіева.



(Працяг будзе)

# Віленскія беларусы расказваюць...



Сьвятлана Белая

1 лютага Віленскай Беларускай Гімназіі споўнілася 75-гадоў. Лёс гэтай адной з найважнейшых беларускіх установаў, якая адыграла вялікае значэньне ў росьце самасьвядомасьці беларускага народу, падобны на лёс іншых беларускіх істытуцыяў.

Віленская Беларуская Гімназія была трэцяй нацыянальнаю беларускаю гімназіяй пасьля Слуцкай і Будслаўскай, але лёс ейны аказаўся больш шчасьлівейшы, чым лёс цэлага шэрагу пазьнейшых беларускіх гімназіяў, як Наваградзкая, Дзьвінская, Люцынская, Маладэчынская, Рыская, якія былі хутка зачынены ўрадамі.

Ідэя стварэньня гэтай першай у Вільні беларускай сярэдняй школы зарадзілася ў душы Івана Луцкевіча. Ён быў ня толькі яе арганізатарам і духоўным бацькам, але і выкладчыкам, выхавацелем моладзі, прыкладам для настаўнікаў і вучняў. Нажаль, хвароба і прадчасная сьмерць не далі ў поўнай меры рэалізаваць ягоныя задумы. Але тое, што ён сумеў зрабіць для гімназіі, настаўнікаў і вучняў, тыя асновы, якія ён пасьпеў закласьці, сталі пачаткам добрых традыцыяў Віленскай Беларускай Гімназіі.

Сярдзіна 20—пачатак 30 гадоў прыпадае на пэрыяд росквіту гімназіі. У гэты час тут выкладалі М.Гарэцкі, І.Дварчанін, А. Луцкевіч, кс. Адам Станкевіч, А. Нэканда-Трэпка, М.Ільяшкевіч, А. Астроўскі й інш. Гэта былі надзвычайныя людзі. Усе былыя віленскія гімназісты, зь якімі мне давялося гутарыць: др. Вітаўт Тумаш, Раіса Галяк, Вольга Сяднёва, сёстры Ірэна і Людвіка Будзькі з захапленьнем апавядалі пра сваіх самаахвярных настаўнікаў і сяброў. Яны прыгадвалі аб сьвяткаваньні 25 Сакавіка і слуцкага паўстаньня, расказвалі пра гімназісцкі хор і тэатральныя пастаноўкі. Памяць вяртала да тых незабыўных часоў, калі восеньню і вясной гімназісты хадзілі ўсёй школай за горад на прагулку, маршыруючы пад гукі аркестры. Прыгадвалі, што трэцяя паўза паміж лекцыямі была заўсёды вельмі доўгай: 20-30 хвілін, таму у час яе грала аркестра, а гімназісты танцавалі.

Успамінаў сьветлых, як сама маладосьць, было шмат. Але галоўнае, і гэта падкрэсьлівалася ў кожнай гутарцы, Віленская Беларуская Гімназія стала для ўсіх

іх сапраўднай школай жыцьця. Гімназія загартавала іх на далейшую барацьбу, накіравала на той нялёгкі шлях змагароў за беларускае адраджэньне, які яны сьвядома выбралі.

Трывожныя прадсаракавыя гады ўнесьлі зьмены у жыцьцё гімназіі.

Справа беларускага школьніцтва ў Польскай дзяржаве пагаршалася з кожным годам. У 1938 г. з 7 беларускіх гімназіяў засталася толькі адна Віленская, каторая зьяўлялася філіяй польскае гімназіі ім. Ю.Славацкага, заціснутай ў цёмныя і цесныя куткі.

Беларуская Гімназія між тым прыцягвала да сябе кандыдатаў з усіх бакоў. У 1939 г. кандыдатаў у першую клясу было больш у два разы, чымсі было прынята.

*«Што чакае Віленскую Беларускую Гімназію з боку школьных уладаў нам ня ведама,—пісаў зацікаўлены чытач Я.Н. у №12 часопіса «Шлях моладзі» за 1938 г. —Хочам аднак пры гэтым сцьвердзіць факт што ў Dzienniky Urzedowym Kuratorium Okregu Szkolnego Wilenskiego №6-7 з дня 1.IУ. 1938 у афіцыяльным урадавым аддзеле: «Арганізацыя школаў» (бач. 205) у сьпісе віленскіх гімназіяў на 1938-39 гг. Беларускае Гімназіі чамусьці няма. Няма так-жа гімназіяў польскіх ім Ю. Славацкага й ім А.Міцкевіча, якія месьцяцца разам у тым-жа самым будынку, што і гімназія беларуская. Не падана, праўда, так-жа, якая гімназія ў Вільні будзе першая, ёсьць толькі нумары гімназіяў: II, III, і IУ. Знача лёс гімназіяў: беларускай, ім. Ю. Славацкага, ім. Ад. Міцкевіча, яшчэ ня вырашаны і мусіць тут будуць нейкія рэформы».*

Захавалася цікавая абʼява, аб тым, што 17 чэрвеня 1939 г. адбудуцца ўступныя экзамены ў Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію.

Варункі прыёма:

У 1 клясу прыймаюцца хлапцы й дзяўчаты, якія: маюць ня менш 12 і ня больш 16 гадоў і кончылі шэсьць ці сем аддзелаў пачатковай школы. Пры паступленьні ў 1 клясу кандыдаты(кі) здаюць праверачны экзамен з польскае мовы, беларускае мовы, матэматыкі, гісторыі, геаграфіі й прыроды, (Пры экзамене зь беларускае мовы трэба ўмець чытаць і пісаць).

Да заявы трэба далучыць метрыку, школьнае пасьведчаньне, пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, дэклярацыя аб тым, што кандыдат па нацыянальнасьці—Беларус...»

Прыналежнасьць да Беларусаў і была, як соль на раны,для польскіх урадаўцаў, якія хацелі любой цаной закрыць Беларускую Гімназію. Лёс аднак распарадзіўся інакш.

Гімназія не прыпыніла сваёй дзейнасьці і ў час вайны. У пачатку лютага 1944 г., на сьвяткаваньні 25-годзьдзя гімназіі сабраліся былыя выпускнікі і настаўнікі. Адзначэньне юбілею было сьціплым, але сьвяточным. Былі бачныя вынікі працы гімназіі. 25 гадоў працы далі магчымасьць Віленскай Беларускай Гімназіі выпусьціць з сваіх сьценаў цэлы шэраг глыбока сьвядомых беларускіх дзеячоў, паэтаў і настаўнікаў, якія самааддана працавалі ва ўсіх кутках Беларусі, а таксама па-за яе межамі, усюды праводзячы традыцыі сваёй Alma Mater і ўсюды пакідаючы жывы сьлед таго нацыянальнага духу і сьвядомасьці, якія запалілі ў іх душах іхнія настаўнікі.

З прыходам савецкіх войскаў у Вільню Віленская Беларуская Гімназія была закрыта. Гімназія аднавіла сваю дзейнасьць ў 1993 г., каб і надалей працягваць добрыя традыцыі па выхаваньню беларускай нацыянальна-сьвядомай моладзі, якія былі закладзены беларускімі патрыётамі 75 год таму назад.

# Віленскія Беларуская Гімназія

Людвіка Бяленіс
Ірэна Пануцэвіч

Мы пайшлі у 1 кляс Віленскай Беларускай Гімназіі ў 1920 годзе. Ірэна, якая ўжо закончыла пачатковую школу, была адразу залічына ў першы кляс, а Людвіка і Часлаў прыняты ў падрыхтоўчы кляс. Мы толькі што пераехалі з Расеі ў Вільню і пасяліліся, як і многія беларусы, што вярнуліся пасьля бежанства на Бацькаўшчыну, на вул. Віленскай 12. Беларусы жылі ў гэтым доме адной дружнай сям'ёй. У адным панадворку з намі кватэравалі Тарашкевіч і ягоная пляменьніца. (Калі Тарашкевіч браў шлюб у касьцёле сьв. Мікалая і кс. Адам Станкевіч вянчаў маладых, усе дзеці з нашага панадворку хадзілі глядзець вянчаньне). Тутжа, у нашым будынку працавала друкарня, вялася вялікая арганізацыйная праца па аб'яднаньню беларусаў.

Ірэна, найстарэйшая сястра, упершыню пайшла ў школу ў Пецярбурзе. У гэтым горадзе нашая сем'я апынулася ў часе першай сусьветнай вайны у сувязі з эвакуацыяй фірмы, дзе працаваў бацька. Часлаў, хаця быў вельмі малы, таксама пасьпеў «пазнаць навукі». Ён пайшоў у школу, ня ўмеючы яшчэ добра хадзіць. Калі маці была занята і ня мела з кім пакінуць брата, то на дапамогу прыходзіў знаёмы настаўнік, які браў з сабой Часлава ў школу, у кляс, дзе выкладаў свой прадмет.

Віленская Беларуская Гімназія была надзвычайная гімназія. Мы зразумелі гэта ўжо пазьней, калі самі сталі выкладаць у Будслаўскай школе й адчулі, якая адказнасьць кладзецца на выхавацеляў моладзі.

У гімназіі перш за ўсё нас зьдзівілі настаўнікі. Гэта былі надзвычайна самаахвярныя людзі. Дзякуючы ім, многія дзеці, асабліва з дальніх беларускіх вёсак, атрымалі мажлівасьць вучыцца. (Вучоба была дарагая, а матэрыяльны стан многіх навучэнцаў быў вельмі дрэнны).

З настаўнікаў, якія выкладалі ў нас у гімназіі, трэба вылучыць Максіма Гарэцкага. Наш бацька сябраваў зь ім і часта хадзіў на кватэру пісьменьніка, дзе зьбіраліся літаратары. Жонка Гарэцкага Леаніла выкладала ў першапачатковых клясах. Яна была першай настаўніцай Людвікі і запомнілася дабрынёй і шчырасьцю. Алена Сакалова вучыла беларускай мове. Была яна вельмі прыгожая і ўмела зацікавіць сваім прадметам.

Антон Нэканда-Рэпка выкладаў фізыку. На сваіх занятках ён стараўся даць як мага болей практычных ведаў. Вучыў хлопцаў, як зрабіць лыжы, як лепш навастрыць канькі. Часта ён браў вучняў на розныя выстаўкі. Памятаем выстаўку, дзе дэманстравалася гісторыя разьвіцьця радыё. Выстаўка пакінула надзвычайнае ўражаньне, бо мы пабачылі, з чаго пачыналася радыё, якія посьпехі былі зроблены на працягу некалькі гадоў.

Настаўнікі выкладалі ня толькі на лекцыях, але і па-за імі. Пасьля заняткаў і абеду яны зноў прыходзілі ў гімназію і працягвалі займацца з вучнямі. Віленская Беларуская Гімназія працавала з ранку да вечара. Калі нехта хацеў чаму-небудзь навучыцца, ён заўсёды меў такую мажлівасьць. Настаўнікі мяняліся, але пераважная боль-

шасьць зь іх заставалася і выкладала гадамі. Клясы былі перапоўненыя, таму было некалькі паралельных клясаў.

Першыя гады ў гімназіі былі складаныя. Не хапала падручнікаў. Памятаем, як настаўнік матэматыкі Астроўскі раздаў вучням па пару лісткоў з падручніка па арыфметыцы ў расейскай мове і папрасіў, каб кожны вучань пераклаў свае бачынкі. Так, калектыўна, з дапамогай вучняў і настаўнікаў зьявіўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі свой беларускі падручнік арыфметыкі. Цікавы успамін пакінуў мастак Драздовіч, які выкладаў мастацтва. Ён быў сапраўдным падзьвіжнікам: езьдзіў па вёсках, рабіў замалёўкі вясковых хатаў, будынкаў, краявідаў. Мастак быццам-бы адчуваў, што пройдзе яшчэ нямнога часу, і гэтыя мясьціны захаваюцца толькі на яго малюнках. Аднойчы ён намаляваў сьвіран, вельмі надзвычайны, і Людвіка, пад ўражаньнем пабачанага намалявала свой варыянт. Драздовіч, зьдзіўлены, схапіў малюнак і панёс яго паказваць бацьку, кажучы, што Людвіка мусіць адводзіць больш часу для маляваньня. Бацька, які сам быў вельмі здольны да мастацтва, падтрымаў Драздовіча. Мы сталі браць прыватныя лекцыі ў мастака,але яны працягваліся нядоўга. Пад уплывам бацькі Людвіка пачала распісываць вялікодныя яйкі. Мастаку Сяргіевічу вельмі падабаліся вузоры , і ён часамі прасіў, каб мы падаравалі яму яйка. Адно яйка, зробленае пад Вялікдзень, было асабліва памятным бацьку. На адной старане быў малюнак і надпіс «Хрыстос Уваскрос!», а на другім баку: «Уваскрэсьне Беларусь!». Бацька прымусіў Людвіку занесьці гэтае яйка да Антона Луцкевіча, які зьмясьціў яго сярод экспанатаў Беларускага музэя імя І.Луцкевіча. (Пасьля мы пабачылі ў адной кніжцы, выдадзенай у БССР, Людвікавае яйка. Другая старана, з надпісам «Уваскрэсьне Беларусь!», была неяк прыкрыта, было бачна толькі «Уваскрэсьне». А ў прозьвішчы аўтаркі была памылка, замест Будчанка, як клікалі Людвіку ўвесь час у Вільні, стаяла прозьвішча Будченко.)

Віленская Беларуская Гімназія ня мела тых датацыяў, якія даваліся польскім ўрадам для польскіх гімназіяў. Толькі аднойчы з Амэрыкі для вучняў была даслана спэцыяльная харчовая дапамога. Адзін раз на дзень у перапынку паміж 2 і 3 вурокамі ў сталовай давалі белыя смачныя булкі і какао. Пазьней амэрыканская дэлегацыя наведала гімназію. Памятаем, што мы вельмі хваляваліся па поваду прыняцьця. Настаўнікі загадалі кожнаму з нас зрабіць амэрыканскі сьцяжок, а мы ня ведалі дакладна, колькі чырвоных, а колькі белых палос мае сьцяг. Нажаль, пасьля гэтага візыту дапамога хутка скончылася. І маткі некаторых гімназістаў заарганізавалі буфет, куды па чарзе прыносілі печыва і прадавалі яго.

У гімназіі працавала многа гурткоў. Калі хто з настаўнікаў валодаў нейкім мастацтвам або меў спэцыяльныя веды ў танцах, балеце, музыцы, стараўся нам дапамагчы. Жонка Астроўскага Антаніна выкладала вышываньне. Ад яе і мы навучыліся вышываць. Вышывалі ня толькі рэчы штодзённага ўжытку, але і канцэртныя блузкі (на белым фоне блакітныя васількі), у якіх выступалі разам з хорам, якім кіраваў Рыгор Шырма. Рэпертуар хору быў поўнасьцю беларускім, народным. Таксама Шырма навучыў нас царкоўным Калядкам. Час ад часу мы выступалі з канцэртамі: у гімназіі, ва ўнівэрсытэце. Людвіка дапамагала перапісваць ноты. Шырма жыў нейкі час у панадворку гімназіі. І яму было вельмі зручна прыходзіць да нас на рэпэтыцыі. У гімназіі была вялікая заля са сцэнай. На

сцэне стаяла фартэп'яна. На вялікім перапынку мы прыходзілі сюды і музіцыравалі. Таксама тут, раніцою мы рабілі пад музыку чімнастыку. У гімназіі час ад часу ставіліся пастаноўкі. Артыстамі былі ня толькі вучні, але і іх бацькі, а таксама студэнты. Памятаем, як нашая маці выконвала ролю Агаты ў спэктаклі «Паўлінка». Акрамя нашай маці ў гэтым спэктаклі прымалі ўдзел яшчэ 2 ці тры старэйшыя жанчыны. Людвіка таксама прымала ўдзел у спэктаклях. Першы раз гэта была дзіцячая пастаноўка, пра хлопчыка, які пайшоў у лес і заблудзіўся. Хлопчык прылёг пад дрэвам і заснуў, а вакол яго праходзілі цікавыя жывёлы і кветкі. Пачыналася пастаноўка словамі:

*Мы карлікі-гномы,*
*Мы дзеці духоў.*
*Жывём у гушчары*
*Пад ценью дубоў.*

Першая роль Людвікі была вельмі малая, яна была кветкай, затое у другой пастаноўцы «Пакой у найме» яна выконвала ролю галоўнай гераіні. Гэта была вясёлая пастаноўка, аб тым, як па памылцы адзін і той-жа пакой быў здадзены гаспадыняй і гаспадаром хаты розным людзям: спачатку студэнтцы, а пасьля студэнту. І прыгоды, выкліканыя гэтай памылкай, і ўсе непаразуменьні здаваліся вельмі сьмешнымі і гумарыстычнымі.

Пасьля заняткаў, мы ішлі да хаты абедаць, а затым зноў прыходзілі ў гімназію. Хлопцы сьпяшаліся на гімнастычую пляцоўку, дзе гулялі ў спартовыя гульні, а мы ішлі на розныя заняткі і гурткі.

Зь нецярпеньнем усе чакалі вечарынаў, якія праходзілі ў гімназіі. На вечарыны запрашаліся ня толькі гімназісты, але усе жадаючыя. Загадзя друкавалі праграмкі, якія прадавалі перад пачаткам вечарыны. Часамі, у залежнасьці, які кляс рыхтаваў вечарыну, перад пачаткам танцаў паказвалася прастаноўка. На танцы вучні прыходзілі звычайна ў гімназісцкай форме: дзяўчаты у сіняй спадніцы з складкамі і сіняй блузцы з белым каўнерчыкам, але без чорнага фартушка, які насілі толькі на заняткі. Трэба сказаць, што ня ўсе вучні мелі формы. Тыя бацькі, што ня мелі грошаў, апраналі сваіх дзяцей, у што маглі. Тое самое датычыцца і гімназісцкіх шапак, якія мелі ня ўсе гімназісты. Гімназісцкая шапка была шэрая, з казырком або без яго. Напярэдзе быў бел-чырвона-белы трохкутнік і вышытыя літары ВБГ.

У гімназіі, пачынаючы зь першых гадоў яе існаваньня адзначалі дзень 25 Сакавіка, але ў першыя гады гэта было вельмі сьціплае сьвяткаваньне. Мы хадзілі маліцца ў беларускія сьвятыні. Праваслаўныя ішлі ў царкву, каталікі—у касьцёл, гэбрэі—у сынагогу. У гімназіі не было моцнага рэлігійнага падзелу, які склаўся на эміграцыі. З гадамі сьвяткаваньні 25 Сакавіка набылі мацьнейшы размах, але з паступовым наступам палякаў на ўсё беларускае, сьвяткаваньні зноў сталі больш ціхэйшымі.

(Працяг будзе)






Мы пісалі ўжо пра Галубка, што ён вучыўся дзе толькі можна як мастак-пейзажыст і як артыст, калі наездамі бываў у Маскве ці Ленінградзе. Яму не падабаўся Меерхольд тым, што ён як рэжысёр спрошчаваў сэнс п'есаў Астроўскага, даводзячы іх да абсурду.

У п'есе «Лес» не было ніякіх дэкарацыяў, ніякіх падвесных заднікаў. Сцэна стаяла пустая, як шалупайка ад яйка. Між тым, на фанэрнай скрыне з прыступкамі сядзелі Аркашка ды Несчасьліўцаў— лавілі рыбу. Ні вудаў, а ні іншых прыналежнасьцей у гэтых рыбакоў не было. Адной толькі мімікай ды жэстамі дасягалася ўражаньне лоўлі. Быццам-бы жывы вялікі лешч трапятаўся ў руках Аркашкі. Трымалася п'еса толькі таму, што выканаўцамі роляў былі знакамітыя артысты, якія быццам трымалі экзамен перад журы ў тэатральным інстытуце, дзе без ніякіх прыладаў трэба «сыграць роль» заўзятага рыбака. Калі мы глядзелі гэты спэктакль з Галубком, ён увесь час ірваўся пакінуць глядзельную залю і бегчы дадому, гаворачы: «Што гэта за відовішча, калі глядзець няма чаго».

У той час існавала шмат якіх тэатральных гурткоў. Былі «Сіняя блуза», «Трам»— тэатр рабочай моладзі. Тады-ж узьніклі канцэртныя ансамблі, групы эстрадных і цыркавых артыстаў. Усё гэтае рушыла з цэнтру на ўскраіны, не мінаючы шматлікіх мястэчкаў. Нейкія куплетысты, чачотачнікі, асілкі, гіпнацізёры і фокусьнікі выступалі перад пачаткам кінафільмаў. Тое самое было і ў літаратуры. Зьявіліся розныя імажэністы, акмеісты ў Беларусі таксама ўзьніклі «Узвышша» і «Маладняк».

Гэтыя літаратурныя згуртаваньні ня толькі адстойвалі свае пазыцыі, але яшчэ і вялі барацьбу з тымі згуртаваньнямі ці з асобнымі пісьменьнікамі, якія не спавядалі ідэі сваіх супраціўнікаў.

Так было і з Галубком, якога «крытыкавалі» за меладрамнасьць, адсутнасьць у ягонай драматургіі наватарства, быццамбы ён не разумеў сучаснасьці і цягнуў назад, губляў рэвалюцыйнасьць у кожным сваім творы.

Неяк пад ціскам маладнякоўцаў на Галубка, ён, прыйшоўшы дамоў са сходу, ускрыкнуў: «Маладняк , каб ты ня ўзрос!» А між тым, праз нейкі час ён падаў заяву ,каб яго прынялі ў гэтае літаратурнае згуртаваньне:

«У Мінскую філію Усебеларускага літаратурнага згуртаваньня.
Маладняк.
Заява
Галубка Уладзіслава Іосіфавіча.
Лічыў-бы за вялікі гонар быць маладня-

Працяг. Пачатак у № 5(5)-9(19), 5(25)-9(29)

коўцам—прашу залічыць мяне ў склад сяброў гэтага згуртаваньня.

1.10. 1926 г.

Ул.Галубок».

Што прынудзіла Галубка ў свае 44 гады зрабіцца маладнякоўцам, цяжка здагадацца, ён-жа ўсё роўна быў рэвалюцыянерам у сваёй творчасьці. Але трэба было каб і вонкава ён лічыўся у шэрагу наватараў, каб усім было бачна, што ён падзяляе свае думкі з маладнякоўцамі і пагэтаму крочыць разам зь імі ў шарэнгах згуртаваньня.

У выяўленчым мастацтве тых часоў было тое самое, што і ў літаратуры. Кубізм і супратэматызм разам з натуралізмам. Розныя групоўкі накшталт «белая роза» ў Маскве, АХР і ОМАХР, розныя нацыянальныя згуртаваньні, а ў Беларусі РОМБ. Што гэта было паказальнікам вольнасьці мастацтва, ніхто не аспрэчваў, наадварот, мы зараз дзівімся, што ў Беларусі быў Пэн і Шагал, Рушчыц і Сяргіевіч, Дучыц і Севрук, Малевіч і Кандзінскі, Мініні і Фогт, Волаў і Эндэ і шмат іншых, хто быў на працілеглых пазыцыях. Але гэтая шматлікая палітра фарбаў толькі садзейнічала разьвіцьцю мастацтва характва, пошукаў выразнасьці ў нацыянальных мастацтвах.

Вядома, што такі стан мастацтва ў краіне ніяк не задавальняў партыю бальшавікоў. Ёй было патрэбна кіраваць ідэялёгіяй, а калі яе няма, дык трэба разагнаць існуючыя вольныя саюзы, згуртаваньні, групоўкі і стварыць адзіны Саюз савецкіх мастакоў, як ідэялягічную арганізацыю. Савецкія мастакі павінны былі забыцца, што кожны зь іх належа да сваёй нацыі. Рэалізм павінен быў стаць сацыялістычным, а яшчэ лепей, каб ён быў да таго і партыйным.

Так у 1932 г. заклаўся Саюз савецкіх мастакоў. З гэтага часу мастацтва пачало гінуць. Праз мастацтва ішоў уплыў на стварэньне новай ідэялёгіі. Гвалтоўна навязвалася мастакам нешта такое, што ня мела ніякага дачыненьня да асобы мастака. Усім мастакам, розным па сваёй сутнасьці ў гэтым характве мастацтва, прапаноўвалася нейкая адзіная тэорыя, якая на практыцы не сумяшчалася з мастацтвам, але добра кантралявалася «хто з намі, а хто супроць нас».

Сацыялістычны рэалізм тлумачыўся, быццам-бы проста. «Нацыянальная форма і сацыялістычнае па зьместу» мастацтва забясьпечвае ўвогуле ўсю канцпэцыю ў тэорыі, а таксама і ў практыцы. Мастацтва павінна быць ваяўнічым, стаяць на баку інтарэсаў пралетарыяту за сацыяльную справядлівасьць. А што датычылася формы, дык тут цяжка было зразумець у чым павінна заключацца нацыянальнасьць гэтай духоўнай пазыцыі. Гэтая катэгорыя адносіцца да пачуцьцяў, якіх так многа, як многа мастакоў,якія маюць свой густ, свой сьветапогляд. Што-ж атрымалася? Дый тое, што застаўся толькі сацыялістычны зьмест без самаго мастацтва. Сродкі выяўленьня засталіся слабыя, няздольныя данесьці да гледача сутнасьць характва.

Такім чынам, форма ёсьць галоўнае ў мастацтве. Той мастак, які валодае формай, валодае майстэрствам, таму падпарадкоўваецца і зьмест сам па сабе. Вось чаму творы мастака «фармаліста», які распрацоўвае форму, глядзяцца і без назвы. Адно спалучэньне фарбаў ёсьць ужо і зьмест, які выклікае ў гледача пачуцьці далёкага мінулага дзяцінства ці нейкіх перажытых (гледачом) падзеяў.

Цікава было-б паглядзець, як меркаваў Галубок аб стане выяўленчага мастацтва сёньня, калі мы адмовіліся ад сацрэалізму, ад партыйнасьці ў мастацтве? Сам ён,

мастак сцэны, жэстаў, рухаў, фарбаў, слова, быў мастаком хараства. І гэтае хараство ён імкнуўся данесьці да сваіх гледачоў. Мне прыгадваюцца расказы Галубка аб ягоных гастролях у раёне, цэнтрам якіх лічылася мястэчка Шацк.

Да самога мястэчка належылі дзьве даволі вялікія вёскі. Так што гледачоў хапала як па ўзросту, так і па роду заняткаў. А па сацыяльнаму стану, дык каго толькі там ні было, бо НЭП быў у той час у разгары. У мястэчку былі дзьве сынагогі, адна царква, разбураны броварны завод, сямігодка ў панскім маёнтку. Нардом разьмяшчаўся ў былым доме тутэйшага сьвятара. У вялікім драўляным доме зьмяшчаліся райком партыі, райваенком ды іншыя ўстановы раённага цэнтра. Навакол рыначнай плошчы цясьніліся крамы, цырульні, пякарня, магазін сельпо і чайная.

Народны дом—гэта і бібліятэка, і глядзельная заля са сцэнай і раялем, і два пакойчыкі па-за сцэнай. Электрычнасьці ў мястэчку не было, памешканьне асьвятлалі вялікія газавыя лампы. Зімой ці ўлетку сюды кожны тыдзень наязджалі гастралёры з Менску, рознага роду «артысты» эстрады—куплецісты ці музыкі з маленькім гармонікамі. Выступалі і асілкі, якія лягалі спіной на дошку з цьвікамі і запрашалі добраахвотнікаў з залі пахадзіць па іх. Выступалі і такія, што складалі вершы ў адно імгненьне —са словаў гледачоў або падстаўных асоб, якія выкрыквалі з залі нейкія словы. Атрымоўвалася нешта накшталт: «Возьмите примус, сварите цинус...»

І нічым нельга было спыніць тую брудную плынь, бо над гэтымі «майстрам сцэны» не было ніякага кантролю. Нават кіналенты, што прывозілі кінаперасоўкі, не адпавядалі запатрабаваньням сяла ці мястэчка. Паказ карцінаў «Сюркуф гроза морей» ці «Жизнь за жизнь» або «Поцелуй Мери Пикфорд» дыктаваўся камерцыйнымі інтарэсамі, які былі не на апошнім месцы пры НЭПе.

Але вось рапотнўна на ўсіх бачных месцах Шацка зьяўляліся адмыслова зробленыя афішы, якія запрашалі жыхароў гораду і навакольных вёсак наведаць Нардом, дзе адбудуцца спэктаклі і канцэрты вядомай трупы пад загадам Ул.Галубка. І усё нібы ажывала ў мэстэчку. Тлумачылася ўсё вельмі проста: тэатр ня першы раз прыехаў у гэты раён. Зноў чуецца родная мова, чыстыя народныя сьпевы .А пра спэктаклі і казаць няма чаго —вастрыня канфлікта, яснасьць фіналу... Гледачы захоплены дынамікай дзеі, яна хутка становіцца на бок пакрыўджанага, на бок праўды. І ўсё гэта так адпавядае таму жыцьцю, што яшчэ нядаўна было ў тым месцы, у таго пана, ці ў той вёсцы.

Галубок ведаў вёску і сялян. Гэта ня дзіўна, бо ішло ўсё гэта ад маці, ад яе родзічаў, што жылі на вёсцы. Галубок часта бываў на вёсцы, а яго назіральнаьсць і здольнасьць заўважаць усё цікавае потым станавілася матэрыялам у драмах і камедыях. І зыходзячы з гэтага, мы не памылімся, калі назавём Галубка сялянскім драматургам. Аднак ня трэба забывацца, што ўсе тыя намаганьні і турботы Галубка аб добрай сялянскай драматургіі не праходзілі гладка. Знаходзіліся крытыкі, што бесьцілі яго за меладраматызм, за несучаснасьць формы драматургіі. Мелкія уколы і паклёпы перарасталі ўсё ў большыя. І гэта ў нямалай ступэні паўплыло на далейшы лёс Галубка.

Як мы ўжо казалі, лёс Галубка быў вельмі няпростым, Поўная загадак ягоная сьмерць і месца пахаваньня. Доўгі час мы мелі толькі наступныя паведамленьні ад ураду:

*Верховный суд БССР*

*гор. Минск, БССР* *29 августа 1957 г. №5-10*

*Справка*

*Дело по обвинению Голубка Владислава Иосифовича 1882 года рождения пересмотрено Верховным Судом БССР 26 августа 1957 г.*

*Постановление от 22 сентября 1937 г. в отношении Голубок Владислава Иосифовича отменено и дело производство прекращено за отсутствием состава преступления.*

*Гербовая печать*

*Верховного суда БССР* *и.о. ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ВЕРХОВНОГО СУДА БССР*

*подпись К.Абушкевич*

Копия

Белорусская Советская Социалистическая Республика

Свидетельство о смерти

I—ПЯ №072392

Гр. Голубок Владислав Иосифович умер 7 марта 1942 года (тысяча девятьсот сорок второго).

Причина смерти гипертония о чем в книге записей актов гражданского состояния о смерти 1957 года декабря месяца 23 числа произведена соответствующая запись за №152

место смерти (не указано)

место регистрации Гомель. Гор. ЗАГС Дата выдачи 23 января 1958 г.

Заведующий бюро записей актов гражданского состояния подпись

Гербовая печать Бюро ЗАГС города Гомеля

І вось нядаўна, дзякуючы намаганьнямі многіх людзей, а асабліва кампазітара І. Лучанка, удалося знайсьці дакумэнт, які зьмяшчаем ніжэй. На сёньня, гэта найбольш праўдзівая інфармацыя аб часе і месьце расстрэлу народнага артыста Беларусі У. Галубка.

В Ы П И С К А

из копии протокола № 32 заседания Комиссии НКВД и Прокуратуры СССР от 22 сентября 1937 г.



| Слушали: | Постановили: |
| --- | --- |
| 37. ГОЛУБОК Владислав Иосифович | Расстрелять. |

Приговор приведен в исполнение 28 сентября 1937 г. в гор. Минске (Тищук)



Верно: СТАРШИЙ СЛЕДОВАТЕЛЬ СЛЕДОТДЕЛА КГБ ПРИ СМ БССР - майор

( ГОРШКОВ )

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Памяці Галубка

Сьвятлана Менская




*Запросіны на вечарыну*

Перад арыштам яму сьніўся адзін і той-жа сон. Бяскрайні палетак, блакітнае неба і маленькае сьцяжынка, што вядзе няведама куды. Ён ляціць над гэтай прыгожай зямлёй, бо ведае, што там, за небасхілам, там дзе неба сустракаецца з залатым жытам, яго чакае маці. Ён чуе яе ціхі голас.

*Галубок, мой Голуб, Галубок*
*Дзе-ж лятаў і дзе бываў, мой мілы?*
*Што ты бачыў у краі чужым?*
*І чаму вярнуўся нешчасьлівы?*
*Так, бываў я маці далеко,*
*Бачыў тэатр прыгожы, сцэну, нівы...*
*Толькі крок адзін, але ён вёў...*
*Куды сынок?*
*Да чужой, няведамай магілы.*

Маці зьнікала і замест яе ён бачыў нейкі агромісты катлаван, і ў ім людзі, людзі, людзі... Ён узіраўся ў іх твары, хацеў знайсьці маці, а замест яе бачыў сябе.

Уладзіслаў Галубок ня ведаў, што свой апошні прытулак ён знойдзе на Курапацкай зямлі. Сёньня, дзякуючы стараньням многіх людзей, мы вядаем і дакладную дату ягонай сьмерці—28 верасьня 1937. Аб жыцьці і сьмерці гэтага дзівоснага чалавека, першага народнага артыста Беларусі, драматурга, рэжысёра, мастака і вялася гаворка на дабрачынным вечары памяці Галубка, які адбыўся 25 лютага 1994 у Доме афіцэраў.

У арганізацыі гэтай вечарыны прынялі ўдзел творчыя саюзы Рэспублікі Беларусь, грамадзка-асьветніцкі клюб «Спадчына», таварыста ЛІМІК, міністэрства абароны нашай рэспублікі.

У фае Дома афіцэраў былі зьмешчаны творы беларускіх мастакоў, прысьвечаныя Галубку, фотаздымкі і рэдкія прыжыцьцёвыя выданьні Галубка з калекцыі мастака Яўгена Ціхановіча. Тут-жа праводзіўся збор ахвяраваньняў на помнік Уладзіслава Галубка. Помнік, якога, на жаль, няма не ў Менску, дзе жыў народны артыст, не ў Гомелі, дзе, у 1932 годзе атрымаў месца прапіскі ягоны тэатр.

Гучала музыка. Шчырыя беларускія мэлодыі ў выканьні Уладзіміра Пузыні й ягонага сына пераносілі ўсіх у атмасфэру Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатру пад кіраўніцтвам Уладзіслава Галубка, калі перад пачаткам яго спэктакляў заўсёды выступалі музыкі трупы. Музыканты ня толькі настрайвалі гледачоў на тэатральны лад, але вучылі іх не забывацца бацькоўскіх традыцыяў, не адракацца ад матчынай мовы, любіць і шанаваць Бацькаўшчыну. І гэтыя вурокі любові да Беларусі працягваліся, пашыраліся у час спэктаклю.

Дабрачынная вечарына пачылася з прагляду фрагментаў фільму «Першы народны... Уладзіслаў Галубок». Тэлепрэм'ера гэтага фільму адбылася 21 травеня 1988 г. Як узгадвае ў сваіх успамінах Яўген Ціхановіч, ад самаго Галыбка ў тэлеперадачы засталося ня шмат. «Атрымалася, што Галубка не расстралялі, а ён памёр свай сьмерцю. Быццам-бы і не рабілі вобыску ў Доме спэцыялістаў, дзе жыла сям'я Галубка. І не разагналі, выкарчавалі БДТ-3, як гняздо нацыянал-дэмакратаў ці шпіёнаў (словы Т.Шашалевіч аб гэтым таксама скасавалі ў перадачы), бо ім кіраваў вораг народу Галубок. «Выстрыглі» зь перадачы і мае словы аб тым, што ў дзень арышту Галубка ў Гомелі прывезлі мастака Сімкоўскага ў НКВД і прымусілі яго зафарбоўваць прозьвішча Галубка пад кожным краявідам, якія былі зьняты з экспазыцыі ў фае тэатра. Я гаварыў, што з тых краявідаў засталося ўсяго чатыры, і зараз Міністэрства культуры ніяк ня можа перадаць іх літаратурнаму музэю ў Менску, які збірае ўсё зробленае Галубком, як мастаком, так і драматургам.»

Фрагменты фільм вярталі нас да тых часоў, калі Галубок натхненна і самааддана працаваў з сваёй групай. Дзякуючы Галубокскаму таленту знаходзіць нават у самых глухіх беларускіх вёсачках здольных людзей і рабіць зь іх сапраўдных артыстаў, калектыў трупы быў на рэдкасьць моцным Граў на скрыпцы ў трупе Галубка і бацька кампазітара Ігара Лучанка. Галубок рабіў усё мажлівае, ня толькі, каб выявіць талент народных майстраў, музыкаў, акцёраў, але пасьля і разьвіць яго, даць мажлівасьць для далейшага творчага росту. Аб тым, які гэта быў незвычайны чалавек і якім суровым стаўся ягоны лёс , — аб гэтым казалі на вечары кампазітар Ігар Лучанок і пісьменьнік Сяргей Грахоўскі. З патрыятычнай прамовай выступіў таксама старшыня грамадзка-асьветніцкага клюба «Спадчына» Анатоль Белы.

І як вянок на магілу першага народнага артыста, стаў канцэрт, у якім разам з сьпевакамі Беларусі: Анатолем Ярмоленка і групай «Сябры», Віктарам Вуячычам, Уладзімірам Палупанавым, Галінай Смоляк, Аляксеем Ісаевым, Віктарам Пакудзюком сьпявалі артысты з Расеі—Людміла Талкунова і з Украіны—Валянтын Зяркевіч.

Сапраўдным сюрпрызам для гледачоў

стала выступленьне студэнтаў Беларускага ўнівэрсытэту культуры, якія падрыхтавалі сцэну з спэктакля Галубка. Вяртаньне да Галубкоўскай клясыкі сёньня, у наш складаны час, гэта яшчэ адно сьведчаньне аб неўміручасьці Уладзіслава Галубка.

І яшчэ адна дэталь. Праглядаючы фрагменты кінафільма, з рэдкімі здымкамі Галубкоўскай трупы пад час гастроляў, успомніўся ліст дэлегатаў батрацкага зьезда Галубку пасьля паказу спэктакляў у Бягомлі Ліст быў надрукаваны ў газеце «Голас Беларуса» за 25 верасьня 1925 года.

*«Наш наказ табе, братка! Няма таго батрака ў нашым раёне, які не знаў-б тваіх твораў, якія так многа кажуць аб батрацкім жыцьці. Можа іх, хто не знае, бо яны далёкія ім, але-ж ты, братка, сумееў улавіць яго і дадаў яму пекнату, выліваючы на сцэне. Можа ты і не быў батраком, але-ж ты батрак запраўскі. Батрак, бо ты з намі ў сваіх думках. Мы шчыра дзякуем табе! Жыві з сваёй трупай і будзі батрацкую сьвядомасьць!»*

У знак пашаны і любові да Галубка, сяляне падарылі яму лапці. Сьціплы дар батракоў быў незабыўным падарункам для Галубка. Прайшлі годы і нашчадкі, у гонар павагі і любові да першага беларускага народнага артыста, у памяць драматурга і настаўніка правялі гэтую першаю афіцыйнаўрачыстую вечарыну памяці. Вечарына, якая, як думаецца пакладзе пачатак сапраўднаму вяртаньню беларусаў да духоўнай спадчыны Уладзіслава Галубка, да сьветлага духу ягоных твораў, якія вучаць нас, берагчы сваю Бацькаўшчыну, каб ніколі боль на нашай зямлі не пралілася «Бязвінная кроў», каб ніколі ў Беларусі, «Праменьчык шчасьця» ня быў затушаны «Душагубам».



*У часе канцэрту. Зьлева народны артыст Беларусі Віктар Вуячыч, справа кампазітар Ігар Лучанок.*




Кожны народ у сваёй гісторыі мае такія падзеі, якія не пазначаны чырвоным колерам у календары, але ёсьць этапамі на шляху разьвіцьця нацыі. Ад іх пачаліся зьмены ў нацыянальным усьведамленьні рэчаіснаснасьцяў, у нацыянальнай самасьвядомасьці. Даты гэтыя ня ёсьць такія велічныя, як, напрыклад, 1863 г.—выданьне «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскім або 1906 г.—выхад газэты «Наша ніва». Аднак пры ўсёй сваёй непрыкметнасьці, яны паказальнікі зьменаў у жыцьці. Такой ёсьць і гэта сьціплая дата —1984 год, год калі зарадзіўся Менскі грамадзка-асьветніцкі клюб «Спадчына».

У чым знамянальнасьць гэтай даты?

Клюб «Спадчына» дае нам адлік пачатку правядзеньня ў Беларусі легальнай асьветніцкай працы па выхаваньню моладзі, па гартаваньню дзеячоў Адраджэньня. Калі-б усю тую энергію і баевы запал, які быў у спадчынцаў перадаць іншым дзесяткам сотняў беларусаў і сваечасова накіраваць у бок змаганьня за умацаваньне незалежнасьці Беларусі, накіраваць на далейшае паглыбленьне сваёй нацыянальнай культуры,—дык якімі-ж моцнымі былі-б мы зараз! І як высока стаяла-б сёньня нацыянальная беларуская культура і дзяржава!

Несумненна, у будучыні гісторыя клюбу «Спадчына» зьверне увагу гісторыкаў і дасьледчыкаў. 1984-1994 гады — гэта цэлы пэрыяд у гісторыі нашай Бацькаўшчыны, на працягу якога Беларусь ад усясільнай камуністычнай дыктатуры падступова пераходзіць да дэмакратыі. Як у гэтых умовах дзейнічалі незалежныя грамадзкія арганізацыі, як яны змагаліся з старой сытэмай — усё гэта мусіць вывучацца, бо барацьба яшчэ не закончана.

Прапануем вашай увазе храналёгію жыцьця клюбу «Спадчына», складзеную яе старшынёй Анатолем Белым. У ёй у інфармацыйнай форме адлюстравана гісторыя жыцьця беларускіх змагароў з 1984 па1994 год.

# Храналёгія культурна-асьветніцкага жыцьця клюбу «Спадчына»

Гісторыя клюбу «Спадчына» сваімі каранямі уходзіць у сакавік 1984 году. Так, 10 гадоў назад выканкам Партызанскага раённага Савета народных дэпутатаў г. Менска прыняў, нарэшце, рашэньне аб перадачы нежылога памешканьня па вул. Мендзялеева 3 клюбу «Спадчына».

21 сакавіка 1984 г. у «Настаўніцкай газэце» за №28 было надрукавана паведамленьне, што пры ЖЭС-23 Партызанскага раёна адкрываецца клюб «Спадчына», у якім будуць праходзіць заняткі, сустрэчы з мастакамі, дасьледчыкамі гісторыі і культуры рэспублікі. Пры гэтым адзначалася, што «Спадчына» запрашае ўсіх жадаючых.

Нежылое памешканьне, якое выдзяліў ЖЭС—23 для клюбу, было зусім непрыдатнае для прыему наведвальнікаў. Рамонт двух пакояў заняў багата часу, бо ўсё прыходзілася рабіць самім. Калі апошнія будаўнічыя працы, нарэшце, скончыліся, была падрыхтавана экспазыцыі выстаўкі «Сыны зямлі беларускай» з калекцыі старшыні клюбу Анатоля Белага. На маленькай плошчы было разьмешчана больш за 300 мастацкіх твораў жывапісу, графікі, скульптуры і прыкладнога мастацтва.

Клюб яшчэ ня быў афіцыйна адкрыты,



*20 лютага 1985 г. Адкрыцьцё клюбу «Спадчына»*
*Зьлева направа. мастакі Мікола Назарчук, Генрых Ціхановіч (унук Ул. Галубка), старшыня клюбу «Спадчына»Анатоль Белы, народны пісьменьнік Беларусі Янка Брыль, мастак Мікола Купава, мастак і мастацтвазнавец Віктар Шматаў*

але інфармацыя аб ім пачала распаўсюджвацца ў Менску. Пэўна, што гэтаму ў немалай ступені паспрыяла выстаўка *«Медальернае мастацтва Беларусі (з калекцыі старшыні клюбу «Спадчына» А. Белага»*, якая адкрылася 21 чэрвеня 1984 г. у Палацы культуры Белсаўпрофа. Выстаўка, прысьвечаная даволі маладому беларускаму медальернаму мастацтву, праводзілася ў рэспубліцы ўпершыню. На ёй было прадстаўлена звыш за 180 твораў медальернага мастацтва рэспублікі.

*20 лютага 1985 году* адбылося адкрыцьцё клюбу «Спадчына» ў памешканьні па вул. Мендзялева, 3. Адкрыцьцё было ўрачыстае. Невялікія пакоі клюбу не маглі зьмясьціць усіх жадаючых. І гэта зразумела. Упершыню ў рэспубліцы адкрываўся клюб, які ставіў сваёй мэтай вяртаньне нашай гісторыі і памяці, забытых імёнаў беларускага народу і адраджэньне сапраўднай гістарычнай праўды.

*6 ліпеня* на радзіме Янкі Купалы каля в.Вязынка клюб «Спадчына» правёў Купальле.

*28 верасьня* перад школьнікамі сярэдняй школы №133 і таксама перад сябрамі клюбу «Спадчына» выступаў мастацтвазнаўца і калекцыянер народнай творчасьці Яўген Сахута. Тэма даклада: *«Праблемы збору і захаваньня народнага мастацтва»*.

*15 кастрычніка* перад школьнікамі сярэдняй школы № 133 і сябрамі клюбу выступіў мастацтвазнаўца Міхась Баразна. Тэма рэферата: *«Народнае мастацтва Беларусі»*.

*23 кастрычніка*—сустрэча з навуковым супрацоўнікам інстытута філязофіі і права АН БССР Алегам Бембелем. Тэма гутаркі: *«Роля мовы ў культурным жыцьці Беларусі»*. На вечары было праведзена анкеціраваньне і адбыўся збор матэрыялаў. Некаторыя зь якіх увайшлі ў даволі вядомую кнігу аўтара. Адметнасьцю вечара было і тое, што тэлебачаньне зрабіла інтэрв'ю як са старшынёй клюбу, так і з Алегам Бембелем, дзе ставіліся пытаньні аб ролі клюбаў у культурным жыцьці горада.

*26 кастрычніка* клюб «Спадчына» наведалі слухачы Рэспубліканскай камсамольскай школы пры ЦК ЛКСМБ. Перад наведвельнікамі выступіў старшыня клюбу А. Белы на тэму: «Работа з моладзьдзю па месцы жыхарства—адна з неабходных частак фарміраваньня яе навуковага сьветапогляду». Правядзеньне падобных лекцыяў для будучай партыйнай элітай быў адным з спосабаў захаваць клюб, які ў горадзе пачаў набыць вядомасьць як клюб нацыяналістаў.

*13 лістапада* перад сябрамі клюбу выступіла дырэктар літаратурнага музэя Максіма Багдановіча Тамара Кароткая. Яе паведамленьне было на тэму: *«Дзейнасьць навуковых супрацоўнікаў па стварэньню музэя Максіма Багадановіча»*.

*27 лістапада* —сустрэча сяброў клюбу зь пісьменьнікам і гісторыкам Кастусём Тарасавым—аўтарам кнігі «Памяць аб легендах».

*11 сьнежня*—сустрэча з музыказнаўцам, супрацоўнікам рэдакцыі музычная праграма беларускага тэлебачаньня Людмілай Макаранка.Тэма гаворкі: *«Беларуская старажытная музыка. Канты, Полацкі сшытак»*.

Слухачы мелі мачымасьць праслухаць запісы гэтых твораў.

*13 сьнежня*—упершыню ў Беларусі ў памяшканьні галоўнага корпусу Белдзяржунівэрсытэта адчынілася выстаўка да 500-годзьдзя Францішка Скарыны (з калекцыі старшыні клюбу «Спадчына» А. Белага). Удзел у адкрыцьці выстаўкі бралі паэт Алег Лойка, пісьменьнік Алесь Петрашкевіч, перакладчык,паэт Язэп Семяжон, дасьледчык Адам Мальдзіс, мастацтвазнаўца і мастак Віктар Шматаў. На выстаўцы было прадстаўлена звыш 70 графічных аркушаў беларускіх мастакоў, прысьвечаных беларускаму першадрукару. Выстаўка працягвалася да сьнежня 1988 г. Адтуль яна перамясьцілася ў памешканьне Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі імя Пятруся Броўкі, дзе экспанавалася да траўня 1986 г. Усе яе экспанаты, а таксама значная частка калекцыі, якія па тэхнічных прычынах не маглі быць выстаўлены на выстаўцы, былі сфатаграфаваны для будучага энцыкляпэдычнага даведніка «Францыск Скарына», які рыхтаваўся у гэты час у выдавецтве БСЭ імя П.Броўкі.

*25 сьнежня* — адбылася сустрэча з загадчыкам кафедры гісторыі СССР і БССР доктарам гістарычных навук, прафэсарам інстытута культуры Анатолем Грыцкевічам. Тэма выступленьня: *«Беларускае служывае саслоўе сялян «выбранцы».*

*29 сьнежня*—вечар, прысьвечаны 500-годзьдзю Францішку Скарыне, арганізаваны для азнаямленьня іарданскага студэнцкага зямляцтва з жыцьцёвым і творчым шляхам беларускага першадрукара. З дакладам на тэму выступіла сябра клюбу «Спадчына» Сьвятлана Белая.

## 1986 год

*3 студзеня* —сустрэча зь пісьменьнікам Беларусі, загадчыкам сэктара гісторыі дакастрычніцкага пэрыяду інстытута літаратуры імя Якуба Коласа АН БССР Адамам Мальдзісам. Тэма выступленьня *«Задачы вывучэньня гісторыі беларускай літаратуры і культуры».*

*22 студзеня*—сустрэча зь пісьменьнікам і дасьледчыкам гісторыі беларускай літаратуры Генадзем Кісялёвым. Тэма выступленьня *«Пошукі аўтарства ананімных паэм «Анеіда навыварат», «Тарас на Парнасе».*

У сувязі з набліжэньнем 150-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага і 125-годзьдзя паўстаньня 1863 г. было прынята рашэньне зрабіць зварот сяброў клюбу «Спадчына» у ЦК КПБ, Саўмін, Вярхоўны Савет БССР, ва ўсе творчыя саюзы, грамадзкія арганізацыі рэспублікі з заклікам аб ушанаваньні памяці К. Каліноўскага і стварэньня музэя героям паўстаньня 1863 г.,а таксама перавыданьні твораў К.Каліноўскага.

*5 лютага*—сустрэча з прафэсарам гісторыі права Белдзяржунівэрсытэта Язэпам Юхо. Тэма выступленьня: *«Раньнекласавыя фэўдальныя аб'яднаньні на тэрыторыі Беларусі і Кіеўскай Русі. Стварэньне Вялікага княства Літоўскага. Статут Вялікага княства Літоўскага».*

*19 лютага*—сустрэча з гісторыкам культуры Генадзем Каханоўскім. Тэма выступленьня: *«Калекцыі культурных каштоўнасьцей у Беларусі ў XIX ст (Радзівілы, Тышкевічы, Жыркевіч, Плятэр, Кіркор, Іван Луцкевіч і інш.) Іх лёс, праблемы вяртаньня, пошукі».* Напрыканцы выступленьня Ге-

надзю Каханоўскаму была ўручана грамата клюбу «Спадчына» за плённы клопат аб спадчыне. Граматы таксама былі ўручаны Аўгену Гучку і Галіне Прыме як самым актыўным сябрам клюбу.

Пасьля паседжаньня быў зачытаны канчатковы варыянт звароту аб ушанаваньні 150-х угодкаў з дня нараджэньня К. Каліноўскага і 125-годзьдзя з дня паўстаньня 1863 г. у Беларусі. Абмеркавалі і вырашалі, што ўсе жадаючыя могуць паставіць свой подпіс пад зваротам. Было надрукавана 16 зваротаў. Пры падліку аказалася, што адзін з экзэмпляраў «зьнік» (Пасьля ён апынуўся у ворганах КДБ). Усе лісты былі накіраваны па назначэньню. Толькі 26 верасьня 1986 г. у «Ліме» быў надрукаваны гэты зварот.

*12 сакавіка*—сустрэча зь беларуска-польскім паэтам, загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Варшаўскага ўнівэрсытэта Алесем Баршчэўскім (Барскім). Тэма выступленьня *«Беларускі культурна-асьветніцкі рух у Польшчы»*.

У часе выступленьня быў зроблены перапынак,каб пабачыць па тэлебачаньню перадачу Уладзіміра Содаля «Роднае слова».

*19 сакавіка*—сустрэча з доктарам гістарычных навук, загадчыкам сектара археа-



*Выступленьне перад сябрамі клюба Алеся Барскага. Сядзяць Генадзь Тумаш (зьлева) і Анатоль Белы*

лёгіі Інстытута гісторыі АН БССР Юрыям Штыхавым. Тэма выступленьня *«Менск у сьвятле новых археалягічных дасьледаваньняў».*

*2 красавіка*—сустрэча з гісторыкам беларускай старажытнасьці Міколам Ермаловічам. Цікавасьць да выступленьня апальнага ў тыя часы гісторыка М. Ермаловіча была надзвычай вялікай. У клюб прыйшло звыш 100 чалавек. Людзі стаялі ня толькі ў залі, але і ў калідоры, і фоталабараторыі. На вечар інкогніта прыйшла загадчык аддзела прапаганды й агітацыі Менскага ГК КПБ Ядзьвіга Юферава (праз некаторы час яна стане вядомай у сувязі зь ейным загадам воінам-афганцам пабіць беларускіх дзяцей, якія 21 красавіка гукалі вясну ў Траецкім прадмесьці).

На вечары прысутнічаў вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч, які пасьля заканчэньня выступленьня Міколы Ермаловіча зрабіў заяву, ён, Анатоль Грыцкевіч, у сваіх лекцыях для студэнтаў карыстаецца той-жа канцэпцыяй, што і шаноўны Мікола Іванавіч. Але калі апошні распавядаў пра старажытную Беларусь каля двух гадзінаў, то Анатоль Пятровіч мусіць уклaсьціся ў 20 хвілін, бо студэнцкая праграма не дазваляе выкарыстаць больш часу. І яшчэ, калі Анатоль Пятровіч зьяўляецца доктарам і прафэсарам, то Мікола Іванавіч павінен быць акадэмікам.

Праз некалькі дзён Аўген Гучок, пад уражаньнем выступленьня М.Ермаловіча ў клюбе «Спадчына» напісаў верш.

*У сутарэньні, у «Спадчыне» Белага*
*Няма дзе яблыку ўпасьці.*
*«Што тут сягодня?—пытаю нясмела.*
*«Сёньня сустрэча —бы шчасьце.*
*Тут сёньня Мікола Іванавіч*
*Аповяд вядзе гістарычны;*
*Гартае мінуўшчыну нанава—*
*Дорыць настрой крынічны...*
*...У век панаваньня антыідэй,*
*Суцэльнай хлусьні і падману*
*Ці многа, радзіма, у цябе дзяцей,*
*Што служыць табе аддана?*

А яшчэ праз каторы час Юферава запрасіла старшыню клюбу «Спадчына» да сябе ў гарком на гутарку. Пры гэтым папрасіла, каб Анатоль Белы прынёс дзёньнікі і ўсе іншыя дакумнеты, зьвязаныя з дзейнасьцю клюбу.

Ядвіга Юферава абрушылася з рэзкай крытыкай навуковых канцэпцыяў Міколы Ермаловіча, абʼявіўшы яго прыхільнікам буржуазнага абʼектывізму і нацыяналізму. А.Беламу дасталося за тое, што ён, як старшыня клюбу, не даў рашучага адпору варожым выступам нацдэма Міколы Ермаловіча. Дастолося таксама і загадчыку кафедры гісторыі СССР і БССР інстытута культуры прафэсару Анатолю Грыцкевіч (праўда завочна), які замест таго, каб даваць рашучы адпор *«враждебным поползновениям»* адкрыта выступіў у іх падтрымку, чым нанёс *«урон»* афіцыйнай гістарычнай навуцы.

Стала зразумелым, гаркам КПБ зрабіў вывад,што ў клюбе «Спадчына» фарміруецца гняздо нацыяналістаў.

*15 красавіка*—сустрэча з мастацтвазнаўцам, супрацоўнікам Дзяржаўнага музэя БССР, аўтарам арыгінальных кніг-альбомаў «Жывапіс Беларусі XII—XУIII стст.», «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XУIII». «Пластыка Беларусі XII—XУIII стст.» Надзеяй Высоцкай. Тэма выступленьня *«Старажытная беларуская культура і праблемы яе асваеньня».*

*23 красавіка* —сустрэча з намесьнікам дзяржаўнага музэя народнай архітэктуры і побыту Мікалаем Лукьянчыкам і загадчыкам аддзела гэтага музэя Ганнай Фурс.

(Працяг будзе)

# З ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Як сьвяткавалі 25 Сакавіка ў Кліўленьдзе

76-я гадавіна 25 Сакавіка адзначалася ў грамадзкім цэнтры «Полацак».

Сьв.Літургія і малебен за беларускі народ адслужыў айцец Міхась Страпко. Пасьля Богаслужбы перайшлі ў вялікую залю. Тут пачалася акадэмія, якую адчыніў і кіраваў старшыня Кліўлендзкага аддзелу БАЗА Янка Ханенка. Напачатку ён прывітаў гасьцей беларусаў з Дэтройту: Л.Бакуновіч, К.Мазуру, М.Кумэйшу, якія прыехалі на сьвяткаваньне, а таксама палякаў і украінцаў. Янка Ханенка зачытаў прывітаньні, атрыманыя ад беларускіх арганізацыяў урадавых і эміграцыйных. Азнаёміў прысутных з праклямацыямі губэрнатара штату Агаё, мэраў гарадоў Кліўленда і Стронгсвіл. Затым старшыня акадэміі перадаў слова Міхасю Белямуку, які прачытаў даклад.

—У мінулым годзе беларусы ўрачыста сьвяткавалі ў Менску 75-ю гадавіну БНР,— адзначыў М.Белямук.— У гэтым годзе ўрад Кебіча забараніў шэсьце ад плошчы Незалежнасьці да помніка Янкі Купалы і правядзеньне акадэміі. Аднак беларускія патрыёты, ня гледзячы на забарону і надвор'е, сабраліся каля помніка Я.Купалы.

М. Белямук падрабязна паведаміў аб выступленьнях на мітынгу каля помніка Я.Купалы, аб сьвяткаваньні рознымі клюбамі, партыямі сьвята 25 Сакавіка.

Паколькі ў гэтым годзе супадаюць знамянальныя даты: 480-годзьдзе бітвы пад Воршай і 200-годзьдзе прысягі Андрэя Тадэўша Касьцюшкі, М.Белямук разгледзеў гэтыя гадавіны й іхняе значэньне для беларускай гісторыі. Дакладчык паведаміў, што «у Менску паўстаў аргкамітэт, у які ўвайшло 27 арганізацыяў, клюбаў і таварыстваў, каб адзначыць гадавіну паўстаньня Касьцюшкі, у арміі якога было каля 40 000 ліцьвіноў (беларусаў). Сам Касьцюшка паходзіць з Берасьцьйшчыны, Кобрынскага раёну. Масква супраць Касьцюшкі накіравала Аляксандра Суворава, які крывава задушыў паўстаньне. Сувораў атрымаў у Кобрынскім павеце 13 200 сялян. У 59 гарадах Беларусі ягоным імём названыя вуліцы, 24 калгасы названыя імём Суворава, у Кобрыне ёсьць музэй Суворава, у Менску працуе кадэцкая школа імя Суворава, але ў Беларусі няма ні вуліцы, ні школы, ні музэю Касцьюшкі.

Дня 22 сакавіка 1864 г. а 10.30 раніцы ў Вільні быў павешаны Кастусь Каліноўскі. Імя правадыра паўстаньня да 1984 г. было забаронена ўспамінаць, а пра помнікі, назовы вуліцаў не магло быць і размовы. Сёньня мы адзначаем 130-гадавіну сьмерці К. Каліноўскага.

За 300 год паняволеньня, асабліва за апошнія 70 год камуністычнага панаваньня —гаварыў дакладчык, —пазбавілі нас нашае мінуўшчыны. Моладзі казалі, што мы ня маем сваёй гісторыі, што мы бездзяржаўны народ.

З 1990 г. пачынаецца адраджэнскі ўздым і часопіс «Полацак» падключыўся да нацыянальнага ўсведамленьня, да адраджэньня беларускай самасьвядомасьці. У 1864 г. павесілі К. Каліноўскага, але змаганьне не спынілася. 25 Сакавіка 1918 г. беларускія патрыёты выдалі Трэцяю Устаноўчую грамату. Абвесьцілі Беларусь незалежнай дзяржавай. Ня спыніць Масква і сёньня нашага імкненьня, каб Акт 25 Сакавіка быў рэалізаваны ў Беларусі.



Сьпявае Валянтына Пархоменка.

Пасьля дакладу адбылася мастацкая праграма. Хор «Васількі» пад кіраўніцтвам Вольгі Лукашэвіч падрыхтаваў новы рэпэртуар. Жанчыны прасьпявалі каля дзесятка песьняў. Пасьля хору выступілі народныя сьпевакі Валя Пархоменка, Алесь Казак і іх дачка Вольга. Іх праграма была настолькі разнастайная, што патрабуе спэцыяльнага артыкула. Прысутныя на залі ня чуліся стомленымі, хаця Валя Пархоменка, Вольга Казак і Алесь Казак давалі канцэрт болей двух гадзінаў.



Выступае хор «Васількі

